ПРОЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!



# ЗА ЛЕНІНСКУЮ ВУЧОБУ

ОРГАН
КУЛЬТПРОПУ
ЦККП/б/Б

ЖНІВЕНЬ

№ 3

ДВБ · 1932
ПАРТМАССЭКТАР



*ПРОЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!*



# ЗА ЛЕНІНСКУЮ ВУЧОБУ



ОРГАН КУЛЬТПРОПУ ЦК КП(б)Б

№ 3

ЖНІВЕНЬ 1932

ВЫХОДЗІЦЬ 2 РАЗЫ Ў МЕСЯЦ

ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ
ПАРТМАССЭКТАР

МЕНСК 1932



Літпраўка *М. Байкоў*
Корэктар *А. Тумiловiч*
Тэхрэдактар *І. Мілешка*
Здана ў друкарню 8/VIII—32 г.
Падпісана да друку 7/IX—32 г.

## ЗЬМЕСТ



Заказ № 1861. 5.000 экз. (3¼ арк.). Уп. Галоўлітбелу №а 764.

Друкарня імя Сталіна.

# „РАШЭНЬНІ ПЛЕНУМУ ЦК І ЦКК КП(б)Б У МАСЫ“

Ліпеньскі пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б сабраўся ў другім квартале 4-га заключнага году пяцігодкі, калі можна было ўжо падвесьці ітогі новым буйнейшым перамогам, атрыманым рабочай клясай, колгасным сялянствам і бядняцка-серадняцкімі масамі вёскі пад кіраўніцтвам партыі ў справе выкананьня народнага-гаспадарчага пляну 4-га заключнага году пяцігодкі.

Перамога, атрыманая ў часе веснавой сяўбы, зьяўляецца адной з буйнейшых перамог і «непарыўна зьвязана з выкананьнем пляну 4-га заключнага году пяцігодкі».

«Сьмешнымі і нікчэмнымі здаюцца злобныя выкрыкі ў ходзе пасеўнай кампаніі з боку меншавікоў, эсэраў, трацкістаў і правых опортуністаў, якія прадракалі (ужо каторы раз) правал сяўбы. Ня вышла. Іх прароцтвы аб краху пасеўнай кампаніі разьбіты і разьвеяны ўшчэнт.

Вынікі сяўбы бягучага году гавораць аб тым, што Савецкі саюз канчаткова ўмацаваўся на новым соцыялістычным шляху, што рашучую перамогу соцыялізму можна лічыць ужо завершанай». («Правда»—перадавая за 26/VI 1932 г.).

### Па СССР на 20 чэрвеня засеяна 94,5 млн. га

У авангардзе пасеўнай кампаніі ішлі саўгасы, якія засеялі на 1574 тыс. *га* больш, чым у мінулым годзе.

Значна павялічылі засеўную плошчу і колгасы, якія засеялі на 8234 тыс. *га* больш, чым у мінулым годзе. З гэтай плошчы 4.230 тыс. *га* прыпадае на асваеньне колгасамі сваіх старых зямель, рэшта на рост колектывізацыі.

У цэлым па соцыялістычным сэктары ёсьць прырост засеўнай плошчы амаль на 10 млн. *га*, прычым на долю саўгасаў і колгасаў прыпадае 82 проц. ад усяго яравога кліну.

Вялізарныя посьпехі дасягнуты машына-трактарнымі станцыямі, якія ў гэтую вясну засеялі ўжо 53 проц. ад ўсёй колгаснай плошчы.

Па БССР засеяна 2543 тыс. *га*, што дае павялічэньне супроць мінулага году на 9,3 проц.

Вялікія зрухі адбыліся ў бок расшырэньня пасеваў важнейшых вядучых культур. Засеўная плошча пад бульбай супроць мінулага году павялічылася на 62,5 тыс.*га*, пад ільном—на 30,2 тыс. *га*.

Колгасы па БССР засеялі 1371 тыс. *га* супроць 1056 тыс. *га* ў 1931 г., колгасы, аб'яднаныя МТС,—486 тыс. *га* супроць 212. МТС ахапілі 41 проц. колгаснай плошчы, саўгасы засеялі 169 тыс. *га* супроць 103 тыс. *га* ў 1931 г.

## Соцыялістычны сэктар займае 60,6 проц. яравога кліну

«Вынікі сяўбы—завяршэньне цэлага этапу барацьбы і работы партыі за організацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне колгасаў, за расшыранае ўзнаўленьне [1]) соцыялістычных адносін у сельскай гаспадарцы» («Правда»).

Колгасы яшчэ раз даказалі перавагі буйнай соцыялістычнай гаспадаркі над гаспадаркай індывідуальнай. На аднаго каня ў колгасах БССР прыпадае 4,68 *га* засеву, у аднаасобных сялян—2,71 *га;* на гаспадарку ў колгасе прыпадае 4,06 *га* засеву, на індывідуальную гаспадарку—2,26 *га*.

Пры гэтым трэба адзначыць, што аднаасобнікі—беднякі і серадняки ў гэтую пасеўную кампанію больш дружна і організавана выконвалі свае пасеўныя пляны, што зьяўляецца вынікам рашучай барацьбы КП(б)Б супроць «лявацкай» недаацэнкі аднаасобнага сэктару. Трэба адзначыць, што атрымала шырокае распаўсюджаньне і дапамога колгасаў аднаасобнікам, а таксама аднаасобнікаў колгасам.

Перамогі, атрыманыя ў веснавую пасеўную кампанію, зьяўляюцца вынікам правільнага правядзеньня генэральнай лініі партыі ў барацьбе на два фронты.

ЦК КП(б)Б пад кіраўніцтвам ЦК УсеКП(б) здолеў па-бальшавіцку перамагчы тое адставаньне, якое наглядалася ў першыя часы кампаніі па БССР.

[1]) Словам „узнаўленьне" перадаецца рускае слова „воспроизводство".

Новае кіраўніцтва ЦК КП(б)Б на чале з т. Гікало ў гэтую вясну паказала, як трэба працаваць сапраўды па-бальшавіцку: конкрэтна, опэрацыйна, па-дзелавому, здолела ажыцьцявіць дапамогу паасобна кожнаму раёну і павярнуць раёны тварам да сельсавету, колгасу, МТС і нават да брыгады.

Вялікія перамогі гэтай вясны атрыманы дзякуючы брацкай дапамозе Савецкага саюзу, што выразілася, у прыватнасьці, у павялічэньні тэхнічнай узброенасьці сельскай гаспадаркі БССР, у тым факце, што 56 МТС, 1.434 трактары працавалі ў гэтую вясну на палёх БССР.

Перамогі гэтай вясны атрыманы ў рашучай барацьбе з клясавым ворагам, які аказаў шалёнае супраціўленьне ажыцьцяўленьню нашых пасеўных плянаў, імкнучыся сазьне і саўнутры разваліць колгасы, выкарыстоўваючы паасобныя памылкі парторганізацыі і слабасьць партыйнай работы ў паасобных мясцох, апіраючыся на сваю агентуру ў радох партыі—правых і «левых» опортуністаў.

Але побач з вялізарнымі дасягненьнямі прыходзіцца адзначыць і слабасьць і недахопы ў рабоце раду організацый і раёнаў у гэту вясну.

Гэта, у першую чаргу, недастаткова чоткае опэрацыйнае кіраўніцтва з боку цэнтральных і раённых, галоўным чынам, савецка-зямельных і колгасных організацый, нездавальняючае кіраўніцтва Трактарацэнтру, нізкая якасьць рамонту, частыя паломкі і нізкая продукцыйнасьць работы трактара і трактарыста.

Сюды таксама належаць: безгаспадарчасьць і дрэнная організацыя працы ў значнай колькасьці саўгасаў (асабліва новых), слабае кіраўніцтва трэстаў; недаацэнка конскай цягі і барбарскія адносіны да каня ў радзе саўгасаў і колгасаў.

Буйнейшым недахопам кампаніі зьяўляецца тое, што ў радзе партыйных, савецкіх і колгасных зямельных організацый пытаньні гаспадарча-організацыйнага ўмацаваньня колгасаў не сталі ў цэнтры ўвагі.

Нарэшце, асабліва буйным прарывам зьяўляецца адсутнасьць у веснавую сельскагаспадарчую кампанію належнай барацьбы за павышэньне ўраджайнасьці і ўкараненьне ў практыцы саўгасаў і колгасаў агротэхнікі.

Правядзеньне ўборачнай і праполачнай кампаніі, асеньняга севу, уздыму зябліва патрабуе далейшай напружанай работы

ўсёй КП(б)Б, рабочае клясы, колгаснага сялянства і «заўтрашніх колгасьнікаў» БССР.

«Савет народных комісараў і Цэнтральны комітэт партыі прапануюць усім савецкім і партыйным організацыям у яшчэ большай меры, чым гэта было ў часе пасеўнай кампаніі, сконцэнтраваць свае сілы на правядзеньні ўборачных работ, як такіх, што вызначаюць рэзультаты ўсяго сельскагаспадарчага году, і ў сувязі з гэтым на справе ўзмацніць увагу да пытаньняў сельскай гаспадаркі». (Пастанова СНК СССР і ЦК УсеКП(б) аб уборачнай кампаніі).

Програма сельскагаспадарчых работ намечана пленумам у наступных разьмерах: убраць натуральных сенажацяй на плошчы 1 850 тыс. *га*, закласьці сілосу 1 200 тыс. *т*, правесьці праполку ільну ня менш аднаго разу, абсыпку і праполку бульбы, кармовых караньплодаў і гародаў—два разы, засеяць азімы клін на плошчы 1.300 тыс. *га*, зазябліць 1.500 тыс. *га*.

У цэнтры ўвагі пры правядзеньні ўборачнай кампаніі павінна стаяць барацьба са стратамі.

У мінулым годзе на Украіне, Урале, у пэўнай меры і ў нас на Беларусі страты, дзякуючы дрэннай організацыі ўборкі, былі надта вялікія.

Трэба паставіць работу так, каб кожны колгасьнік і аднаасобны селянін—бядняк і серадняк зразумеў, што ад лепшай організацыі ўборкі залежыць палепшаньне яго добрабыту, залежыць разгортваньне колгаснага гандлю.

Уборка павінна быць праведзена ў магчыма карацейшы тэрмін пры поўным скарыстаньні ня толькі складаных, але і прасьцейшых машын. Усё збожжа павінна быць заскірдавана і як хутчэй абмалочана. Неабходна правесьці старанны абмалот, організаваць зграбаньне калосься; ужываньне збожжа-спаймальнікаў. Неабходна добрая пастаноўка ўліку, барацьба з крадзежамі і г. д.

Умовай і вынікам пасьпяховага правядзеньня ўборачнай кампаніі павінна зьявіцца далейшае гаспадарча-організацыйнае ўмацаваньне колгасаў і паляпшэньне організацыі працы ў колгасах.

«Організацыя працы ў колгасах павінна забясьпечыць яшчэ ў большай меры, чым гэта мела месца, непасрэдна зацікаўленасьць, як кожнай брыгады, так і паасобных колгасьнікаў у рэзультаце сваёй работы» (З пастановы СНК СССР і ЦК УсеКП(б).

Вялізарнае значэньне для справы гаспадарча-арганізацыйнага ўмацаваньня колгасаў і пасьпяховага правядзеньня ўборачнай ды іншых асеньніх работ мае правільнае разьмеркаваньне даходаў і ўраджаю па колькасьці і якасьці затрачанай працы.

У мінулым годзе быў дапушчан рад апушчэньняў і памылак пры разьмеркаваньні ўраджаю—няправільны ўлік працадзён, несваячасная выдача натуральнай і грашовай часткі, няправільнае выяўленьне даходаў і сапраўднай расцэнкі працадня. Кампанія па разьмеркаваньні даходаў ненормальна расьцягнулася на доўгі час.

У гэтым годзе разьмеркаваньне ўраджаю і даходаў павінна быць закончана не пазьней як 15-І 1933 г.

«Неабходна ўжо ў ходзе абмалоту правесьці выдачу колгасьнікам авансаў у лік натуральнай часткі даходаў у разьмеры 10—15 проц. фактычна абмалочанага збожжа» (З пастановы СНК СССР і ЦК УсеКП(б). Разьмеркаваньне авансаў павінна праводзіцца выключна па працаднёх.

Неабходна правесьці рашучую барацьбу супроць ураўнілаўкі пры разьмеркаваньні натуральных выдач у колгасах на працадзень.

«Пры правядзеньні ўборкі ўраджаю, правядзеньні збожжазагатовак і рахьмеркаваньні даходаў у колгасах неабходна забясьпечыць такое становішча, каб колгасы, якія лепш пасеялі, сабралі і акуратна выканалі ўстаноўлены для іх плян дзяржаўных загатовак, мелі адпаведна ў сваім распараджэньні для ўласных патрэб большую колькасьць збожжа» (З пастановы СНК СССР і ЦК УсеКП(б).

Вялізарнае значэньне для посьпехаў уборачнай кампаніі мае сваячасны завоз машын, добраякасны і сваячасны папераджальны рамонт трактароў і сельскагаспадарчых машын, забесьпячэньне іх запаснымі часткамі, мобілізацыя ўсіх мясцовых рэсурсаў для вырабу запасных частак для трактароў, правільнае спалучэньне конскай цягі з трактарамі.

Неадлучнай часткай асеньняй сельскагаспадарчай кампаніі зьяўляецца барацьба за сваячаснае і 100-процантнае выкананьне загатовак.

Трэба памятаць аб тым, што разгортваньне колгаснага гандлю збожжам і мясам магчыма толькі п а с ь л я поўнага выкананьня дзяржаўных цэнтралізаваных плянаў збожжа і жывёла-загатовак.

Неабходна рашучая барацьба супроць кулацкага працістаўленьня гандлю выкананьню дзяржаўных плянаў загатовак.

Пры разьмеркаваньні плянаў загатовак паміж паасобнымі колгасамі і саўгасамі, трэба дабіцца поўнага выкарчаваньня мэханічнага, ураўняльнага падыходу да колгасаў, які наглядаўся ў радзе раёнаў у мінулым годзе, неабходна ўлічваць сапраўдны гаспадарчы стан, ураджайнасьць, зямлязабясьпечанасьць і г. д. кожнага ў паасобку колгасу.

Неабходна забясьпечыць поўнае выкананьне загатоўчых плянаў індывідуальным сэктарам, дабіцца тэрміновага выкананьня індывідуальных заданьняў кулацка-заможнай часткі вёскі.

Неабходна арганізаваць сустрэчны паток тавараў на вёску.

«Для забесьпячэньня бальшавіцкіх тэмпаў уздыму ўсёй народнай гаспадаркі і для лепшага задавальненьня запатрабаваньняў шырокіх мас гораду і вёскі ў адносінах тавараў шырокага спажываньня першараднае значэньне мае разгортваньне тавараабароту» (рэзолюцыя XVII партконфэрэнцыі).

Пленум падвёў папярэднія ітогі і намеціў конкрэтныя мерапрыемствы па ажыцьцяўленьні пастаноў ЦК і СНК СССР аб разгортваньні савецкага колгаснага гандлю, вырабе тавараў шырокага спажываньня і прасоўваньні іх на вёску.

Раённыя організацыі дагэтуль яшчэ ня далі дастатковай колькасьці прыкладаў сапраўды культурнай організацыі колгасных рынкаў, усебаковага абслугоўваньня колгасьніка на рынку, дапамогі яму гандляваць, організацыі сустрэчнага гандлю таварамі шырокага спажываньня на рынку.

Пленум падкрэсьліў неабходнасьць барацьбы на 2 фронты пры організацыі колгаснага гандлю як супроць праваопортуністычнай стаўкі на самацёк, слабага разгортваньня барацьбы са спэкулянтамі і перакупшчыкамі, так і супроць спроб «лявацкага» адміністраваньня, рэгляментацыі цэн, прамой забароны колгасам і колгасьнікам, якія акуратна выконваюць свае абавязацельствы перад дзяржавай, выступаць на савецкім рынку (Чырвонапольле, Горкі, Бабруйск, Чавусы), прымацаваньня колгасаў да спажывецкай коопэрацыі (НКснаб).

Пленум указаў на неабходнасьць узмацненьня гандлёвай дзейнасьці спажкоопэрацыі, як гарадзкой так і вясковай, задача якой ня толькі гандляваць таварамі, якія завозяцца з цэнтру, але і

«зьбіраць распыленыя таварныя цэннасьці і выклікаць да жыцьця новыя» (Ленін).

Уся сетка партыйнага выхаваньня павінна безадкладна пераключыцца на паглыбленую прапрацоўку рашэньняў пленуму пры мобілізацыі масы слухачоў на іх выкананьне. Работа кожнай школы і гуртка будзе расцэньвацца па ступені актыўнага ўдзелу іх у рэалізацыі рашэньняў пленуму ЦК.

Пленум ЦК КП(б)Б ва ўсю шырыню паставіў пытаньне аб перабудове і разгортваньні організацыйна-партыйнай, масавай і політвыхаваўчай работы.

Рост нашай партыі патрабуе больш высокай організацыі партыйнай работы, падвышэньня масавай політвыхаваўчай работы сярод рабочых.

*Задача кожнай парторганізацыі— ахапіць політычным уплывам* усіх рабочых прадпрыемства, колгасаў, саўгасаў, цэху, брыгады, кіраваць конкрэтна, опэратыўна, знаць жывых людзей.

Далейшае павышэньне авангарднай ролі комуніста на вытворчасьці; правільная расстаноўка сіл, перагляд структуры пабудовы партыйных колектываў і ячэек з мэтай набліжэньня іх да цэху, брыгады і забесьпячэньня партыйным кіраўніцтвам кожнага і ў першую чаргу вядучых вучасткаў прадпрыемства, роўнамернае разьмеркаваньне нагрузак і сыстэматычная праверка іх выкананьня—вось галоўнейшыя з тых пытаньняў організацыйнага характару, якія павінны знайсьці неадкладнае практычнае пераламленьне ў рабоце партыйных організацый.

Максымум увагі ўмацаваньню сярэдняга зьвяна і забесьпячэньню яго моцнымі кіруючымі кадрамі—адна з важнейшых задач парторганізацыі на вытворчасьці. Яе практычнае вырашэньне павінна пайсьці па лініі перасоўваньня работнікаў парткомаў на пастаянную работу ў ячэйку, па лініі конкрэтызацыі кіраўніцтва, скліканьня розных нарад, пасяджэньняў і г. д. Кіруючы работнік парткому тры чвэрткі свайго рабочага часу павінен праводзіць непасрэдна ў ячэйцы, інструктаваць яе і дапамагаць у вырашэньні пастаўленых перад ёю задач.

Пытаньне аб партыйным дні зьяўляецца актуальнейшым у сучасны момант. Умела організаваць, добра падрыхтаваць партыйны дзень (паставіць сапраўды актуальныя пытаньні, добра падрыхтаваць дакладчыкаў, широка апавясьціць аб часе і месцы сходу.

загадзя рэкомэндаваць матэрыялы да таго ці іншага пытаньня і г. д.),—гэта значыць прыцягнуць усіх комуністаў ячэйкі да актыўнага ўдзелу ў партыйных днях, выхоўваць комуністаў, асабліва маладых, узбройваць членаў ячэйкі вопытам партыйнай работы. Добра падрыхтаваны партыйны дзень яшчэ вышэй узьніме політычную актыўнасьць мас, створыць умовы для яшчэ шырэйшага разгортваньня бальшавіцкай самакрытыкі і ўнутрыпартыйнай дэмократыі, узьніме бояздольнасьць, ідэйную ўстойлівасьць кожнага комуніста.

Расстаноўка партыйных сіл з такім разьлікам, каб ня менш чым 70 проц. складу ячэек працавала непасрэдна на вытворчасьці (паляводная брыгада, фэрма і г. д.), забесьпячэньне опэрацыйнага кіраўніцтва колгаснай ячэйкі, далейшае ўмацаваньне апорных ячэек (ячэек саўгасаў, МТС і колгасаў)—усё гэта пры сваім практычным ажыцьцяўленьні будзе ўзмацняць разгортваньне барацьбы за соцыялістычнае перавыхаваньне колгасьнікаў, за організацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне колгасаў, за рэалізацыю пастановы ЦК УсеКП(б) аб разгортваньні колгаснага гандлю.

Партыйна-выхаваўчая работа—другое карэннае пытаньне партыйнай работы. Каля паловы складу парторганізацый прышло ў партыю за апошнія два гады. Гэтыя тысячныя кадры трэба пабальшавіцку выхаваць, узброіць тэорыяй марксізму-ленінізму, вопытам партыйнай работы для далейшай барацьбы за генэральную лінію партыі. А па-бальшавіцку выхаваць, г. зн. ня толькі ахапіць гэтыя кадры партыйнымі школамі і гурткамі, але і загартоўваць іх на штодзеннай рабоце. Трэба ведаць кожнага комуніста, узровень яго разьвіцьця і адпаведна гэтаму даць яму тую ці іншую штодня нагрузку, правяраючы яго работу, прывучаючы яго да бальшавіцкай дысцыплінаванасьці, узьнімаць яго ідэолёгічную ўстойлівасьць.

Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на партыйна-выхаваўчую работу кандыдатаў і маладых членаў партыі.

За апошнія гады вырасьлі рады партыйнага кіруючага актыву. Але гэты рост не забясьпечвае яшчэ тэй патрэбы, якая адчуваецца ў кадрах. Задача заключаецца ў тым, каб разьвіць шырокую падрыхтоўку кіруючых кадраў. Трэба ўзброіць кожнага сакратара ячэйкі і группарторга глыбокім разуменьнем ленінскага і сталінскага вучэньня аб партыі, вопытам партыйнай работы.

Трэцяе пытаньне—гэта разгортваньне масава-палітычнай работы і агітацыі ў саўгасах і колгасах. Партыяй пастаўлена задача перад кожнай ячэйкай і партгрупай—ахапіць партыйна-масавай работай кожнага рабочага, ахапіць палітычнай агітацыяй шырокія масы колгасьнікаў.

Вызначаючы з усёй чоткасьцю і паўнатой зьмест масавай работы і палітычнай агітацыі ў горадзе і на вёсцы, пленум ЦК зьвярнуў асаблівую ўвагу на павышэньне яе ідэйна-палітычнага ўзроўню. Адначасна з тым пленум завастрыў увагу ўсёй КП(б)Б на дыфэрэнцыяцыі партыйна-масавай работы, па падрыхтоўцы кадраў агітатараў.

Усе гэтыя мерапрыемствы накіраваны на далейшую перабудову, партыйнай работы, на павышэньне арганізуючай і кіруючай ролі партячэек у барацьбе за ажыцьцяўленьне генэральнай лініі партыі.

Пастановы пленуму павінны быць даведзены да кожнага комуніста, комсамольца і б/п рабочага і колгасьніка. Яны павінны быць глыбока вывучаны ў кожнай арганізацыі, ячэйцы, партгрупе, павінны быць на працягу самага кароткага тэрміну праведзены ў жыцьцё.

Выкананьне пастаноў пленуму немагчыма без узмацненьня барацьбы з правымі і «левымі» опортуністамі, з прымірэнцамі да антыленінскіх ухілаў, ныцікамі і малаверамі, якія тармозяць нясупынны рух наперад, да поўнай перамогі соцыялізму.

---

Я. Улазаў

## НЕКАТОРЫЯ ПЫТАНЬНІ МАРКСЫСЦКА-ЛЕНІНСКАГА ВЫХАВАНЬНЯ НА ГОМЕЛЬСКІМ ЧЫГУНАЧНЫМ ВУЗЬЛЕ

„Усю партыйна-масавую работу, палітычную агітацыю і пропаганду трэба арганізаваць па-бальшавіцку і так, каб ахапіць імі цалкам усю рабочую масу і кожнага рабочага, кожнага працоўнага паасобку (Кагановіч).

Гомельскі чыгуначны вузел, як па сваім значэньні ў транспартнай гаспадарцы БССР, так і па колькасьці рабочых, служачых і інжынэрна-тэхнічнага пэрсоналу, зьяўляецца адным з буйнейшых чыгуначных вузлоў БССР. Ён зьяўляецца вялікім комбінатам, які аб'ядноўвае абслугоўваньне службы руху, цягі з буйнай вытворчасьцю. На тэрыторыі гэтага вузла знаходзіцца буйнейшы завод Усесаюзнага значэньня імя Ланцуцкага, дарожныя майстэрні сувязі, дэпо ды інш.

Партыя паставіла перад комуністамі, рабочымі і служачымі чыгункі вельмі адказную задачу—бальшавіцкімі тэмпамі прывесьці чыгуначную гаспадарку ў суадпаведнасьць з задачамі і тэмпамі соцыялістычнага будаўніцтва, ліквідаваць адставаньне транспорту, а ў другой пяцігодцы правесьці вялізарную работу па рэконструкцыі транспорту. На сёньняшні дзень баявая задача—мобілізаваць усе сілы і сродкі на бальшавіцкую падрыхтоўку да асеньня-зімовых перавозак, ад пасьпяховага выкананьня якія залежыць у значнай ступені выкананьне народнагаспадарчага пляну чацьвертага заключнага году пяцігодкі.

Масавая палітвыхаваўчая работа . парторганізацый, прадпрыемстваў транспорту, даведзеная да цэху, брыгады, перабудова ўсёй партмасавай работы ў суадпаведнасьці з задачамі соцыялістычнай рэконструкцыі транспорту—асноўная задача парторганізацый транспорту.

Вялізарнае значэньне ў сыстэме масава-палітычнай, выхаваўчай работы мае партыйная пропаганда. Зьместам яе работы на транспорце ў даны момант павінна быць барацьба за бальшавіцкія тэмпы асеньня-зімовых перавозак. У аспэкце гэтых задач марксысцка-ленінскае выхаваньне на гомельскім чыгуначным вузьле знаходзіцца ў нездавальняючым становішчы. Бальшавіцкая пропаганда ня стала яшчэ важнейшым зьвяном ва ўсёй рабоце партыйных організацый вузла.

## Сёньня няма калі займацца вучобай

Першае, што трэба констатаваць, гэта—абсолютная адсутнасьць вучобы ў большасьці партыйных організацый вузла. З наступленьнем вясны і лета школы, гурткі спынілі сваю работу. Своечаснага пераключэньня на летнія формы работы няма. Некаторыя ячэйкі нават ня ставілі пытаньня аб летняй вучобе на бюро. Тыя ячэйкі, якія нават абгаварылі формы і мэтоды работы сеткі партасьветы на летні час, абмежаваліся толькі вынясеньнем пастаноў.

Характэрным прыкладам можа служыць завод імя Ланцуцкага. У гутарках з сакратарамі цэхавых ячэек высьветлілася, што парткомам вынесена была пастанова аб летняй вучобе. Згодна гэтай пастановы організавана была сетка, аднак заняткаў да гэтага часу не праводзіцца. Сакратар ячэйкі зборачнага цэху тлумачыць гэты зрыў вучобы так: «сёньня няма калі займацца пытаньнямі вучобы і гутаркамі аб гэтым. У мяне больш адказная задача—рэалізаваць пазыку чацьвертага заключнага году пяцігодкі».

Гэты таварыш займаецца рэалізацыяй пазыкі ў сваім цэху, але зусім не разумее таго, што нельга адрываць палітычна-гаспадарчыя кампаніі, якія праводзяцца партыяй, ад палітыка-выхаваўчай работы, якая павінна мобілізаваць шырокія масы на выкананьне генэральнай лініі партыі. У выніку—поўная адсутнасьць вучобы ў зборачным цэху заводу імя Ланцуцкага. Гэты цэх зьяўляецца па меншай меры адным з галоўных на заводзе. У ім працуе 270 чал.

рабочых; партыйная організацыя—76 чал. І вось гэта маса, дзякуючы адсутнасьці сеткі партвучобы, штодзенна ня выхоўваецца.

Ня лепш абстаіць справа на ўсім заводзе. Між тым культпроп парткому так характарызуе становішча партасьветы на заводзе: «На лета мы пераключыліся сваячасна і разгарнулі шырокую сетку, згодна дырэктыў ЦК і ГК КП(б)Б. Тут былі прадстаўнікі ЦК, якія рабілі агляд і дапамагалі організаваць сетку, так што ў мяне справа з партасьветай абстаіць больш-менш добра. Абсолютная большасьць членаў і кандыдатаў партыі рэгулярна наведвае школы і ў курсе ўсіх пытаньняў». Такая інформацыя ня можа не парадаваць і ты гатоў моцна паціснуць культпропу руку і вітаць яго за бальшавіцкае вырашэньне гэтага важнейшага пытаньня. Але гэтая радасьць пераходзіць у сум, калі бліжэй і падрабязьней знаёмішся з гэтай справай у саміх цэхах, брыгадах і сустрэнеш малюнак процілеглы таму, які намаляваў загадчык культпропу. Мала організаваць сетку,—трэба, каб яна працавала, а для гэтага ня шкодна было-б т. культпропу штодзенна бываць у цэхах, кіраваць конкрэтна і опэратыўна, а не спадзявацца на самацёк.

## Там, дзе яшчэ ня думалі перабудаваць партыйна-выхаваўчую работу

Партколектыў руху пасажырскай станцыі не організаваў вучобы ў зімовы пэрыод, не організоўвае яе і на летні час. Праўда, будзе некалькі недакладна, калі казаць, што ня было вучобы ў зімовы час. Формальна лічылася, што існуе адна пачатковая школа для слаба падрыхтаваных і вячэрняя саўпартшкола для больш пісьменных. На паперы гэтымі формамі вучобы была ахоплена ўся парторганізацыя. Але... школы амаль не наведваліся слухачамі. Заняткі зрываліся. Прыходзіў кіраўнік, але ня было слухачоў, ці, наадварот, сядзелі і чыталі 2—3 слухачы, але не зьявіўся кіраўнік—і так на працягу ўсёй зімы. «Цяжкія ўмовы працы»—скардзіцца сакратар партколектыву. «Людзі ўвесь час у разьездах, гэтак кажучы, на калёсах. Адны прыяжджаюць, другія ад'яжджаюць і нельга прыстасаваць да гэтых умоў работу школ».

Згаджаемся, умовы для работы цяжкія. Але ці можам мы гэтымі «об'ектыўнымі» абставінамі апраўдаць адсутнасьць усялякай

партыйнай прапаганды. Ня трэба забываць, што ў колектыве лічыцца 50 кандыдатаў партыі і 112 членаў КП(б)Б, прычым большая частка іх маладыя члены партыі, з якімі трэба праводзіць вялікую выхаваўчую работу.

Неабходна рашуча перабудаваць работу партколектыву руху пасажырскай станцыі і палепшыць партыйна-выхаваўчую работу, прыстасаваўшы яе да спэцыфічных умоў вытворчасьці. Неабходна організаваць школы і гурткі па брыгадах, па зьменах, школы на колах, уцягнуць у іх максымальную колькасьць рабочых, кондуктароў, і г. д. Неабходна ажывіць формы і зьмест самой работы, вырашаючы пякучыя пытаньні вытворчай работы, прапрацоўваючы чарговыя дырэктывы партыі і ўраду. Трэба зацікавіць слухачоў!

Ня лепш абстаіць справа і ў такіх ячэйках КП(б)Б, як на 27-й дыстанцыі і службы руху Гомель-таварны. Ячэйкі па колькасным складзе комуністаў невялікія і ў той-жа час раскіданыя па сваёй вытворчай рабоце на вялікі радыус адлегласьці. Гэтыя ячэйкі не зрабілі нават спробы організаваць школы, гурткі, будучы ўпэўнены наперад у няўдачы. У ячэйцы 27-й дыстанцыі кіраўнікі ячэйкі нават не ўяўляюць сабе, чым можа займацца школа, калі ў ячэйцы такія «адказныя і пісьменныя члены партыі», як напрыклад дарожны майстар, тэхнік ды інш. А ці сапраўды гэта такі пісьменны народ? Хай скажуць аб гэтым самі члены ячэйкі. Гутарым з першым, хто трапіў на вочы. Член КП(б)Б з 1929 г., кваліфікаваны рабочы-ударнік. Пытаемся: «Што вы робіце для падвышэньня свайго марксысцка-ленінскага ўзроўню»? Адказвае: «Газэты чытаю не рэгулярна. У мінулым годзе наведваў школу, якую скончыў. У гэтым годзе ў сувязі з частымі ад'ездамі на лінію ня прыходзіцца рэгулярна наведваць. Але вольны час бывае, хацеў-бы наведваць, але ў ячэйцы сваіх гурткоў няма, а больш ня ведаю, куды зьвяртацца. Думаю паступіць у дарожны тэхнікум». Значыцца пры правільнай організацыі работы і правільнай расстаноўцы сіл ёсьць глеба для партыйнай асьветы. Сакратар ячэйкі згаджаецца з такім вывадам. Абяцае прыняць рашучыя захады. Паглядзім... Няма партасьветы і ў дарожных майстэрнях сувязі. Організавалі школы, аднак яны да гэтага часу не правялі аніводнага занятку.

## Прыклады, на якіх трэба вучыцца працаваць

Партыйным організацыям Гомельскага чыгуначнага вузла трэба павучыцца організацыі работы па партыйнай асьвеце ў парткомах дэпо і асабліва яго цэхавых ячэйках КП(б)Б.

У дэпо—1.300 чал. рабочых. Партыйная організацыя налічвае 415 чал. (з якіх кандыдатаў 120 чал.), існуе 6 цэхавых ячэек. Партком дэпо штодзенна займаўся пытаньнямі партыйнай пропаганды і здолеў давесьці да сьвядомасьці кожнага комуніста, асабліва кандыдата партыі, неабходнасьць узбройваць сябе марксысцка-ленінскай тэорыяй. Вучоба ў зімовы час мела цэлы рад недахопаў, аднак програмы школ і гурткоў былі даведзены да канца, зрабілі выпуск слухачоў і своечасна пераключыліся на летнюю вучобу, улічваючы і недахопы зімы, а таксама ўсе асаблівасьці вытворчасьці пры організацыі сыстэмы партасьветы, кіруючыся лістом т. Стэцкага і адпаведнымі ўказаньнямі ЦК КП(б)Б. Цэнтральным момантам організацыі работы на лета зьявілася вучоба актыву, яго падрыхтоўка і перападрыхтоўка. Вучоба актыву павінна была служыць прыкладам для астатняй масы партыйцаў і зьнішчыць нараканьні, якія былі на актыў з боку радавых членаў. Да вучобы актыву падышлі дыфэрэнцыявана ў залежнасьці ад падрыхтоўкі і выконваемай работы. Організована працуюць:

1. 2-х месячныя курсы нізавога актыву групоргаў, якія ахопліваюць 80 чал. Заняткі пачаліся ў маі і праводзяцца рэгулярна. Наведвальнасьць 80 проц. Работа організавана так, што калі слухач ня мае магчымасьці зьявіцца сёньня, ён можа прысьці на заняткі заўтра, і пры тым бяз шкоды для справы, бо адна і тая-ж тэма прапрацоўваецца 3 дні парад. Для выкладаньня прыцягнуты лепшыя сілы, якія зусім адпавядаюць курсам.

2. 2-х месячныя курсы партактыву, якія ахопліваюць членаў парткому, сакратароў цэх'ячэек, старшынь профкомаў і гаспадарнікаў—усяго 25 чал. з павышанай програмай. Курсы наведваюцца вельмі акуратна—на ўсе 100 проц. Адчуваецца значная зацікаўленасьць, заняткі праходзяць жыва.

Так організаваў вучобу актыву партком дэпо. Для кандыдатаў пры кожнай цэхячэйцы організаваны кандыдацкія школы. Сакратары ячэек гавораць, што школы наведваюцца на 50—60 проц., але прасачыць работу гэтых школ не ўдалося.

Для ўсёй астатняй масы партыйцаў існуюць гурткі бягучай політыкі і марксысцка-ленінскія гурткі. Партком зьвярнуў належную ўвагу на падрыхтоўку прапагандыстаў. Паслана 4 чал. рабочых на курсы пры Гаркоме. З іншымі кіраўнікамі школ, а таксама з рабочымі, якія скончылі сярэднія зьвеньні—ВСПШ, курсы ды інш., праводзіцца нерэгулярна сэмінар.

За абмяжаванасьцю месца ў гэтым артыкуле няма магчымасьці падрабязна спыніцца на рабоце сеткі дэпо і яго вопыце. Але-ж нельга ні ў якім разе абыйсьці ўвагай узорнай работы па марксысцка-ленінскім выхаваньні цэхавай ячэйкі, ступеньчатага дэпо, работу якой нам удалося прасачыць больш падрабязна.

Працуе ў цэху 209 чал., сярод іх членаў КП(б)Б 53 чал., кандыдатаў 27 чал. Існуе кандыдацкая школа, якая поўнасьцю ахапіла ўсіх кандыдатаў і 12 чал. беспартыйных рабочых. Наведвальнасьць рэгулярна адзначаецца ў журнале. Мы праверылі—4-га чэрвеня было 25 чал., 9-га чэрвеня—28 чал. і г. д. Заняткі вядзе сам сакратар ячэйкі т. Кавальчук, які карыстаецца вялікім аўторытэтам сярод партыйцаў і беспартыйных рабочых. Проста і добра вядзе гутарку. Заняткі праходзяць жыва, цікава. Тэорэтычнае палажэньне ілюструецца жывымі прыкладамі і людзьмі свайго прадпрыемства, былога старога рэжыму і г. д. У гутарцы прымаюць актыўны ўдзел усе прысутныя. Заняткі канчаюцца, а гутарка паміж слухачоў доўга яшчэ працягваецца на шляху да дому.

Ад кіраўніка многае залежыць—тав. Кавальчук аўладаў мэтодам работы і організацыі. Патрэбна, каб яго вопыт работы, асабліва ўвязкі тэорыі з практыкай, пераняла іншыя чыгуначныя організацыі. У гэтай-жа ячэйцы ня дрэнна працуе і гурток бягучай політыкі для астатняй масы партыйцаў і беспартыйных. За май і чэрвень м-цы прапрацавалі рашэньні XVII партконфэрэнцыі і XIV зьезду КП(б)Б, пастановы партыі і ўраду аб збожжа-і мясазагатоўках, сельгаспадатку, колгасным гандлі, задачах чыгункі, і ў прыватнасьці свайго цэху ў асеньня-зімовых перавозках і г. д.

## Зьнішчыць недахопы ў партвучобе і па-бальшавіцку паставіць выхаваньне на чыгунцы

Гэтыя прыклады з работы дэпо сьведчаць аб тым, што партыйную пропаганду магчыма пасьпяхова праводзіць на чыгунцы пры ўсіх спэцыфічнасьцях яе работы. Парторганізацыі, якія спасылкай

на об'ектыўныя ўмовы (раз'езды ды інш.) апраўдываюць адсутнасьць работы па марксысцка-ленінскім выхаваньні, праяўляюць недаацэнку палітычнага значэньня партыйнай пропаганды, як аднаго з асноўных зьвеньняў партыйнай работы. Адсутнасьць ахвоты і ўменьня працаваць і прывялі да адсутнасьці вучобы ў большасьці партыйных організацый вузла. Такога роду настроі, непаваротлівасьць павінна быць неадкладна зжыты.

Неабходна тэрмінова разгарнуць сетку партасьветы, увязваючы ў штодзённай яе рабоце агульныя пытаньні палітыкі партыі з конкрэтнымі задачамі сваёй вытворчасьці, організаваўшы сетку паводле вытворчага прызнаку, зрабіўшы яе масавай, з вялікім ахопам транспортных рабочых.

Будзем спадзявацца, што Гомельскі чыгуначны вузел па-бальшавіцку ліквідуе прарыў і па-бальшавіцку перабудуе партыйную работу ў суадпаведнасьці з указаньнямі т. Кагановіча і ліпеньскага пленуму ЦК КП(б)Б.

В. Жукаў

## ПА-БАЛЬШАВІЦКУ ЗМАГАЦЦА ЗА МАСАВАЕ ЗАВОЧНАЕ ПАРТНАВУЧАНЬНЕ

Пытаньне марксысцка-ленінскага выхаваньня і падвышэньня політычнай сьвядомасьці членаў і кандыдатаў партыі і шырокага комсамольскага актыву і асабліва **падвышэньня політычнай сьвядомасьці** новага папаўненьня партыі павінна быць у цэнтры ўвагі партыйных організацый.

Рост радоў партыі ў БССР патрабуе ад усіх партыйных організацый разгортваньня марксысцка-ленінскага выхаваньня і штодзеннай партыйна-масавай работы сярод новага папаўненьня. З часу XVI зьезду ЎсеКП(б) у 1930 г. рост партыйнай організацыі ў БССР праходзіў у такой пасьлядоўнасьці: у 1930 г.—прынята ў рады партыі 13.123 чал., у 1931 г.—16.121 чал. і за першы квартал 1932 г.—4142 чал. Гэтыя новыя члены партыі, якія прышлі ў нашу партыю з вялікім практычным стажам вытворчай работы, павінны атрымаць марксысцка-ленінскую падрыхтоўку, набыць вопыт бальшавіцкай барацьбы, кіруючыся рэволюцыйнай тэорыяй марксызму-ленінізму.

Але ня толькі гэтым вызначаюцца задачы марксысцка-ленінскага выхаваньня. Вялікая праца павінна быць праароблена таксама і з партыйным актывам, з тымі таварышамі, якім даручаецца справа кіраўніцтва партыйнай організацыяй, як напрыклад сакратарамі партыйных ячэек, колектываў і г. д.

Для кіраўніцтва соцыялістычным будаўніцтвам, для організацыі політычнага, гаспадарчага і культурнага жыцьця краіны нам перш за ўсё неабходны такія політычныя кадры, такія політычныя кіраўнікі, якія ня толькі ведалі-б практыку паасобных галін працы, але і былі-б у дастатковай ступені ўзброены марксысцка-ленін-



скай тэорыяй і ўмелі-б ажыцьцяўляць гэту тэорыю ў дзеяньні у барацьбе за соцыялізм, у барацьбе з усімі варожымі марксызму-ленінізму тэорыямі і праяўленьнямі опортунізму ў нашай партыі, у саветах, профсаюзах, у барацьбе супроць правых і «левых» дэзорганізатараў соцыялістычнага будаўніцтва, супроць гнілога лібэралізму і прымірэнцтва да яго.

Але для таго, каб дабіцца выкананьня задач, што стаяць перад партыяй у галіне партнавучаньня, нам патрэбны гібкія формы вучобы, такія формы, якія былі-б дастасаваны да работы партактыву, якія ўлічвалі-б яго нагрузку і т. д.

Аднэй з такіх форм зьяўляецца завочнае партнавучаньне. Сыстэма завочнага навучаньня мае цэлы рад пераваг перад стацыянарнай партыйнай вучобай. Па-першае, у сыстэме завочнага навучаньня партыйны, комсамольскі і беспартыйны актыў не адрываецца ад практычнай работы па соцыялістычным будаўніцтве, і па-другое, пры гэтай схэме магчыма скарыстаць лепшыя выкладчыцкія і профэсарскія сілы, якія рыхтуюць для завочнай сыстэмы дапаможнікі. Выдавецкая частка ў завочнай сыстэме спалучаецца з перадачаай лекцый па радыё з мэтаю дапамагчы завочніку ў распрацоўцы матэрыялаў. Тут таксама скарыстоўваюцца лепшыя тэорэтычныя кадры.

Вось чаму партыя ставіць сваёй задачай шырокае разгортваньне сыстэмы масавай завочнай партыйнай асьветы. Але масавай гэта асьвета можа быць толькі тады, калі яна будзе сапраўды ахопліваць сотні і тысячы членаў партыі, а таксама комсамольскага і беспартыйнага актыву. Ці можам мы сказаць гэта на сёнешні дзень? На сёнешні дзень сыстэмай завочнага партыйнага навучаньня ахоплена па БССР каля 2.500 членаў партыі і комсамольскага актыву. Гэта лічба ўжо зьяўляецца масавай, але яна далёка яшчэ ад таго, што можна зрабіць праз сыстэму завочнага навучаньня.

Трэба адзначыць, што радыё хоць і ў недастатковай яшчэ ступені, але ахапіла ўсе вучасткі і галіны нашай работы, і наяўнасьць на сёнешні дзень каля 300 вучэбных радыё-аўдыторый, дае магчымасьць ахапіць вялікую колькасьць завочнікаў. Бяда наша ў тым, што работа радыё-аўдыторый пастаўлена зусім дрэнна. Чым гэта тлумачыцца? Гэта тлумачыцца тым, што ў кіраўніцтве вучэбнымі радыё-аўдыторыямі існуе абязьлічка, самацёк і неорганізаванасьць.

Не наладжаны належны ўлік завочнікаў, якія прымацаваны да радыёаўдыторый, не вядзецца вакол гэтых аўдыторый масавай работы.

Адзначаючы гэта, нельга абысьці становішча работы па завочным навучаньні ў паасобных раёнах.

У Віцебскім раёне было пабудавана тры радыё-аўдыторыі— дзьве з іх на прадпрыемствах, а адна—у доме Комасьветы, але пры праверцы становішча работы радыё-аўдыторыі ў пачатку чэрвеня месяца знойдзена, што радыё-аўдыторыі зусім не працуюць таму, што навушнікі ды інш. абсталяваньне раскрадзены і папсаваны, і ніхто за гэту справу не адказвае. На працягу ўсяго часу ня было арганізавана слуханьня радыё-лекцый, ня гледзячы на тое, што ў Віцебску ёсьць дастатковая колькасьць лектараў, якія маглі-б забясьпечыць нормальную работу з завочнікамі ў радыёаўдыторыях. Такое становішча тлумачыцца тым, што гэту справу нават кіраўнікі райкому недаацэньваюць. Загадчык Культпропу райкому т. Гаеўскі гэтай справе не аддае ніякай увагі. Нават, калі да яго зварачаюцца за дапамогаю работнікі завочнай саўпартшколы, ён адказвае: «Адчапіся ты са сваімі завочнікамі». Аб чым гэта гаворыць? Гэта гаворыць аб тым, што адказьнейшы кіраўнік гаркому КП(б)Б замест сыстэматычнай дапамогі, замест арганізацыі справы завочнага навучаньня ігнорue яе, дэмобілізуе работнікаў, якім яна даручана. І як вынік, мы ўжо адзначылі разбурэньне радыё-аўдыторый, зрыў устаноўчых конфэрэнцый, якія былі намечаны да скліканьня яшчэ ў маі месяцы.

Культпропам ЦК КП(б)Б у мэтах разгортваньня завочнага партыйнага навучаньня і кіраўніцтва гэтай работай на месцы была паслана ў якасьці организатара т. Астроўская. Ня гледзячы на тое, што культпропам ЦК былі даны ясныя ўказаньні аб тым, што Астроўская павінна быць пакінута на працы па завочным навучаньні, Гаеўскі, насуперак дырэктывам культпропу, зьняў Астроўскую з працы раённага арганізатара, а гэты вучастак пакінуў без адпаведнага работніка.

Ня лепш стаіць справа ў Бабруйскім раёне. У горадзе Бабруйску пабудаваны 2 вучэбныя радыё-аўдыторыі, але яны не працуюць па тых-жа самых прычынах што і ў Віцебску, Улік завочнікаў не вядзецца, у райкоме гэтай справай ніхто не займаецца, завочнікі пакінуты на самацёк. Дагавораў на снабжэньне электраэнэргіяй, бя-

гучым і капітальным рамонтам з боку кіраўніцтва сувязі дагэтуль не заключана. А таму за тэхнічны стан радыё-аўдыторый ніхто не адказвае. Будаўніцтва 17 новых радыё-аўдыторый знаходзіцца пад пагрозай зрыву.

У Слуцкім раёне пабудавана 6 радыё-аўдыторый, некаторыя з іх вельмі добра абсталяваны; праводзіцца організацыя слуханьня радыё-лекцый, значна лепш параўнальна з паказанымі вышэй раёнамі. На 3 радыё-аўдыторыі заключаны дагавары, на астатнія 3 яшчэ не заключаны, дзякуючы чаму радыё-аўдыторыі не забясьпечваюцца нормальна электраэнэргіяй.

Побач з паказанымі адмоўнымі бакамі работы радыё-аўдыторыі і пастаноўкі завочнага навучаньня, трэба адзначыць і становучыя бакі ў рабоце некаторых раёнаў.

Так, у Мазырскім раёне, дзякуючы таму, што гэтай справай займаецца гарком і непасрэдна кіруе ёю загадчык Культпропу райкому т. Койфман, работа па завочным навучаньні пастаўлена, у параўнаньні з іншымі раёнамі, добра. Разгорнута масавая работа ў часе вярбоўкі ў завочную сыстэму і па некаторых формах заданьні ЦК выкананы і перавыкананы: у ЗКУ трэба было набраць 30 чал., а набрана 25 чал., пры наяўнасьці 30 чал. старых завочнікаў, у ЗСПШ—па разьвёрстцы трэба было набраць 30 чал., набрана 70 чал. пры наяўнасьці старых завочнікаў 35 чал., у Комсамольскі унівэрсытэт паводле заданьня трэба набраць 30 чал., набрана 26 чал., старых завочнікаў тут дагэтуль ня было. Горш стаіць справа з вярбоўкай на радыё-курсы партактыву: паводле заданьня трэба было набраць 30 чал., а набрана толькі 5 чал., але набор на радыё-курсы працягваецца. Аб чым гэта сьведчыць? Гэта сьведчыць аб тым, што тут па-баявому, па-бальшавіцку была разгорнута масавая работа на прадпрыемствах, у колгасах, саўгасах і МТС. Толькі пры такой пастаноўцы работы можна дасягнуць пастаўленай мэты разгортваньня масавага завочнага партыйнага навучаньня, накіраванага на падвышэньне тэорэтычнага ўзроўню партыйнай і комсамольскай організацыі раёну.

Гаворачы аб завочным навучаньні, неабходна адзначыць, што намі яшчэ ня ўсё зроблена, каб паставіць на належную вышыню якасьць завочнага навучаньня, каб прасякнуць усю вучобу ваяўнічай партыйнасьцю, бальшавіцкай непрымірлівасьцю.

Організаваныя пры Інстытуце завочнага партмасавага навучаньня, згодна прапановы ЦК, катэдры, яшчэ не разгарнулі сваю

работу. Якасьць рэцэнзаваньня і консультацый вельмі часта не стаіць на належнай вышыні, а рэцэнзэнт-консультант не атрымлівае яшчэ сваячасна патрэбнай яму дапамогі.

Посьпехі ў разгортваньні масавага завочнага партыйнага навучаньня залежаць ад сапраўднага опэратыйнага кіраўніцтва райкомаў, гаркомаў і ячэек. Вялікую ролю ў разгортваньні масавай падрыхтоўкі партыйных і комсамольскіх кадраў праз завочную сыстэму адыгрывае соцспаборніцтва і ўдарніцтва паміж паасобнымі групамі і брыгадамі завочнікаў на лепшую прапрацоўку матэрыялаў і выкананьне вучэбнай програмы, а таксама і паміж паасобнымі завочнымі сэктарамі саўпартшкол, Комвузу. На гэты шлях павінны зараз-жа стаць кожны завочнік, кожны сектар, які кіруе гэтай справай. Каб дабіцца ўзорнай пастаноўкі работы завочнай сыстэмы навучаньня, патрабуецца конкрэтная работа кожнага работніка, якому даручана партыяй справа разгортваньня завочнага навучаньня. Між тым інструктары завочных сэктароў саўпартшколы, Завочнага комвузу пры непасрэдным выязьдзе для работы ў раёны не заўсёды дабіваюцца конкрэтных вынікаў дзякуючы таму, што інструктары па звароце з раёнаў не даюць нават вычарпальных конкрэтных зьвестак аб становішчы работы ў тым ці іншым раёне. Інстытут партмасавага завочнага навучаньня ня мае магчымасьці хутка і опэрацыйна рэагаваць на ўсе нездаровыя зьявішчы, якія сустракаюцца ў рабоце. Вось прыклад, інструктар завочнага сэктару Комвузу, т. Манько за 2-х месячны пэрыод аб'ехаў вялікую колькасьць раёнаў і дзякуючы адсутнасьці конкрэтнай работы ў раёнах мы на сёнешні дзень ня маем дакладных даных аб пастаноўцы работы ў абсьледаваных ім раёнах.

З гэтага выцякае, што інструктар і работнікі, якія выяжджаюць у раён, павінны правесьці конкрэтныя мерапрыемствы па разгортваньні завочнага навучаньня і пасьля гэтага прывесьці дакладныя вынікі зробленай работы, каб магчыма было хутка рэагаваць на тыя ці іншыя зьявы.

---

# ДЫРЭКТЫВЫ КУЛЬТПРОПУ ЦК КП(б)Б

## ЛІСТ РЭДАКЦЫІ ЖУРНАЛУ „ЗА ЛЕНІНСКУЮ ВУЧОБУ“

*Загадчыкам культпропаў ГК і РК КП(б)Б, загадчыкам рэспубліканскіх СПШ, вячэрніх і дэкадных комвузаў, вячэрніх СПШ, штатным пропагандыстам ГК і РК, кіраўнікам пропгруп, загадчыкам культпропаў ГК і РК ЛКСМБ.*

Дарагія таварышы!

Культпроп ЦК КП(б)Б з чэрвеня 1932 г. пачаў выдаваць журнал «За ленінскую вучобу», задача якога—барацьба за ўзмацненьне марксысцка-ленінскага выхаваньня членаў і кандыдатаў партыі, комсамолу і беспартыйных рабочых, колгасьнікаў і «заўтрашніх колгасьнікаў». Журнал разьлічаны на пропагандыстаў і актыў слухачоў сеткі партасьветы, на організатараў справы марксысцка-ленінскага выхаваньня. Мае мэтай асьвятленьне вопыту работы, як вячэрняй (кандыдацкія школы, першапачатковыя школы і ВСПШ), вячэрнія комвузы, дэкадныя комвузы), так і дзеннай сеткі партыйнай вучобы (СПШ, комвуз імя Леніна), работы курсавых баз і розных курсаў актыву, работы пропгруп, работы па завочным навучаньні і г. д.

Журнал ставіць мэтаю дапамагчы тэорэтычнаму і практычнаму росту пропагандыста, культпропа, парткома, організатара вучобы ў ячэйцы.

Рэдакцыя журналу зьвяртаецца да вас з просьбай організаваць рэгулярную дасылку артыкулаў, заметак, корэспондэнцый па ўсіх вышэй паказаных пытаньнях, як пропагандыстамі-выкладчыкамі і організатарамі справы марксысцка-ленінскага выхаваньня, так і актывам слухачоў, а таксама і самому рэгулярна супрацоўнічаць у журнале.

У сучасны момант журналу цікавы наступныя тэмы: перабудова сеткі партвучобы на летнія формы і ход летняй вучобы, ра-

бота курсаў актыву ўсіх відаў, работа пропгруп, ход падрыхтоўкі да зімовай вучобы, як з боку парткомаў, так і з боку саміх навучальных устаноў (СПШ, вячэрнія комвузы, комвуз і г. д.), проекты перабудовы работы гэтых устаноў на асеньня-зімовы пэрыод, абслугоўваньне з боку сеткі партвучобы бягучых гаспадарча-палітычных кампаній: поліва, уборка ўраджаю, асеньняй сяўбы іворыва на зяб, рэалізацыі пазыкі 4-га заключнага году пяцігодкі, выкананьня прамфінпляну на прадпрыемствах, падрыхтоўкі да асеньня-зімовых перавозак на транспорце.

Асабліва цікавы для журналу ў даны момант вопыт пастаноўкі справы марксысцка-ленінскага выхаваньня на ўсіх відах сэзонных работ, у першую чаргу на торфараспрацоўках, на пабудовах, водным транспорце і лесасплаве.

Спадзяемся на вашу энэргічную дапамогу рабоце журналу і яго папулярызацыі.

З ком. прывітаньнем Рэдакцыя.

Адрэс рэдакцыі: Менск, Чырвонаармейская, ЦК КП(б)Б, пакой № 51.

---

## ПАЛАЖЭНЬНЕ АБ РАЁННЫМ ГАБІНЭЦЕ ПАРТРАБОТЫ

1. Габінэт партработы зьяўляецца мэтодычна-інструкцыйным органам раённага партыйнага комітэту КП(б)Б. Асноўныя задачы габінэту—дапамагаць раённым партыйным комітэтам, партколектыву і ўсёй парторганізацыі ў барацьбе за ажыцьцяўленьне генэральнай лініі партыі, за палепшаньне якасьці організацыйна-партыйнай, масавай і політвыхаваўчай работы. Гэтыя асноўныя задачы габінэт партработы ажыцьцяўляе шляхам:

а) дапамогі асобным сэктаром раённых партыйных комітэтаў у справе вывучэньня лепшага вопыту партработы і распрацоўкі асобных пытаньняў;

б) абслугоўваньня партыйнага і комсамольскага актыву матэрыяламі, літаратурай, консультацыямі, даведкамі і г. д.;

в) ажыцьцяўленьня мэтодычнага кіраўніцтва ва ўсёй сыстэме марксысцка-ленінскага выхаваньня парт. і КСМ організацый;

г) актыўнага ўдзелу ў правядзеньні падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі партыйнага і комсамольскага актыву;

д) інструктажу партработы на вытворчасьці, саўгасах, колгасах і МТС.

2. Для ажыцьцяўленьня гэтых задач, габінэт організуе сваю работу па сэкцыях: 1) оргпартработы, 2) агітмасработы, 3) культпропработы, 4) КСМ работы. У залежнасьці ад характару работы і магчымасьцяй, лік сэкцый павялічваецца: нац. культбудаўніцтва, друку, жансэкцыя ды інш. Работа ўсіх сэкцый увязваецца ў адным пляне работы габінэту.

3. Зьмест работы сэкцый організацыйна-партыйнай работы вызначаецца задачамі Оргаддз. РК КП(б)Б па перабудове формы, мэтодаў і зьместу партработы, асабліва нізавога партыйнага зьвяна. Задачы сэкцый організацыйнай партработы:

а) зьбіраць і распрацоўваць мясцовыя матэрыялы з вопыту партработы на вытворчасьці, у саўгасе, колгасе, популярызаваць вопыт работы ў друку па асобных проблемах партбудаўніцтва, сыстэматычна абслугоўваць партактыў дырэктыўным матэрыялам па пытаньнях партбудаўніцтва праз інструкцыйныя даклады, консультацыі, выстаўкі і г. д.;

б) пры габінэце і на вытворчасьці праводзіць меры па падвышэньні кваліфікацыі сакратароў партячэек і групparторгаў праз організацыю вячэрніх сэмінараў, курсаў, консультацый, лекцый, дакладаў і г. д.

4. Задачы сэкцыі агітмасавай работы:

а) змагацца за падвышэньне якасьці агітмасавай работы, сумаваць і пашыраць лепшы вопыт агітмасавай работы праз збор матэрыялаў, абсьледваньні і г. д.;

б) зьбіраць і складаць для партактыву, дакладчыкаў і організатараў матэрыялы, тэзісы па асноўных пытаньнях політыкі партыі;

в) зьбіраць і сыстэматызаваць мясцовыя матэрыялы, праводзіць інструкцыйныя даклады для партактыву, выкладчыкаў, кіраўнікоў агітколектываў, групавых агітатараў, праводзіць рэгулярныя консультацыі, групавыя індывідуальныя, як у самім габінэце, так і на вытворчасьці, па чарговых пытаньнях агітмасавай работы;

г) організоўваць сыстэматычную падрыхтоўку і перападрыхтоўку агітмасавых работнікаў праз сэмінары курсы, нарады, консультацыі.

5. У задачы сэкцыі культуры і пропаганды ўваходзяць:

а) барацьба за забесьпячэньне ідэйнай вытворчасьці, за падвышэньне якасьці работы марксысцка-ленінскага выхаваньня праз распрацоўку кіруючых матэрыялаў, падбор мэтодычнага і мясцовага матэрыялу, вывучэньне вопыту пропагандысцкай работы, выпуск мэтодычных распрацовак і г. д.;

б) збор і сыстэматызацыя агульнага і мясцовага матэрыялу па організацыйным і мэтодычным вопыце работы сеткі партасьветы, барацьба за ідэйную вытрыманасьць марксысцка-ленінскага выхаваньня;

в) популярызацыя вопыту работы па марксысцка-ленінскім выхаваньні з мэтай палепшаньня якасьці гэтай работы;

г) організацыя пры габінэце і на прадпрыемствах, саўгасах, колгасах і МТС сэмінарыяў пропагандыстаў для падвышэньня іх кваліфікацыі;

д) правядзеньне пры габінэце і на прадпрыемствах для парткалектыву і пропагандыстаў лекцый-консультацый па пытаньнях партвучобы;

е) дапамога мясцовым аддзяленьням БІМЗО ў кіраўніцтве работай завочнікаў, па організацыі радыё-аўдыторый, консультацый, конфэрэнцый і т. д.

6. Сэкцыя комсамольскай работы мае сваёй задачай:

а) вывучаць актуальныя пытаньні комсамольскай работы, зьбіраць і абагульваць найлепшы вопыт работы і пашыраць яго ва ўсіх комсамольскіх організацыях;

б) сумесна з РК ЛКСМ праводзіць мерапрыемствы ў справе практычнай і тэорэтычнай падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі пропагандыстаў і комсамольскага актыву;

в) ажыцьцяўляць мэтодычнае абслугоўваньне агітпропагандысцкай работы комсамолу;

г) праводзіць сыстэматычнае інструктаваньне і консультацыі з комсамольскім актывам па ўсіх пытаньнях партыйнай і комсамольскай работы.

7. Бібліотэка габінэту партработы мае сваёй задачай:

а) забясьпечыць літаратурай усе сэкцыі і абслугоўваць партыйны і комсамольскі актыў і ўсю партыйную масу;

б) распрацоўваць і рассылаць рэкомэндацыйныя сьпісы літаратуры да чарговых гаспадарча-палітычных кампаній, па тэорыі і практыцы марксызму-ленінізму;

в) організаваць перасоўкі на вытворчасьці;

г) організаваць выстаўкі літаратуры па асобных пытаньнях і весьці сыстэматычную рэцэнзэнтную работу па новай кніжцы асобна па падручніках для партсеткі і г. д.

8. Габінэт увязвае сваю работу з плянам работы цэнтральнага дому комуністычнай асьветы пры ЦК КП(б)Б і з плянам работы раённага комітэту КП(б)Б. Плян складаецца квартальны і опэратыўны на месяц і зацьвярджаецца РК і ГК КП(б)Б. Агульнае кіраўніцтва габінэтам ажыцьцяўляецца праз культпроп- аддзелы ГК і РК; непасрэднае кіраўніцтва ўскладаецца на загадчыка габінэту, які прызначаецца РК і ГК КП(б)Б.

9. Габінэт партработы павінен сыстэматычна перасылаць у цэнтральны дом Комасьветы свае пляны работы, квартальныя справаздачы аб праведзенай рабоце і ўсе мэтодычныя матэрыялы, навучальныя пляны, мэтодычныя распрацоўкі, матэрыялы абсьледваньня, плякаты, дыяграмы, фотографіі і. г. д. і выконваць заданьні, якія ўскладае на яго цэнтральны дом комасьветы.

10. Габінэт організоўвае і кіруе габінэтамі партработы на вытворчасьці, МТС, саўгасах, колгасах, склікаючы сыстэматычныя інструкцыйныя нарады работнікаў гэтых габінэтаў, жывой сувязью дапамагаючы ім палепшыць іх работу. Датычныя гэтага ўказаньні габінэт пэрыодычна атрымоўвае ад цэнтральнага дому Комасьветы.

11. Габінэт організоўвае і замацоўвае вакол сябе партактыў з ліку навуковых работнікаў і асьпірантаў, партработнікаў з вытворчасьці, профработнікаў ды інш., якія выконваюць асобныя заданьні і памагаюць ва ўсёй рабоце габінэту.

12. Габінэт вядзе дакладны ўлік усёй работы і сыстэматычна асьвятляе вопыт сваёй работы ў мясцовым і цэнтральным друку (часопісах і газэтах).

Заг. Сэктару Пропаганды

Культпропу ЦК КП(б)Б **Балабанаў.**

Заг. Дому комасьветы пры ЦК КП(б)Б **Сямёнаў.**

# ПРОГРАМЫ І МЭТОД РАСПРАЦОЎКІ

## ПРОГРАМА ПА ГІСТОРЫІ ПАРТЫІ ДЛЯ КУРСАЎ ПАРТАКТЫВУ І ПРОПАГАНДЫСТАЎ

*(Разьлічана на 120 гадзін)*

Тэма 1

### Комуністычная партыя—авангард рабочай клясы (8 гадзін)

Наяўнасьць баявой рэволюцыйнай партыі пролетарыяту, узброенай перадавой тэорыяй—асноўная ўмова перамогі рабочае клясы над капіталізмам і пабудовы комунізму. Програма ЎсеКП(б) і Комінтэрну аб ролі партыі. Партыя і кляса. Рабочая кляса—самая рэволюцыйная і перадавая грамадзкая кляса сучаснага грамадзтва. Партыя—перадавы і організаваны атрад рабочае клясы. Партыя—вышэйшая форма клясавай організацыі пролетарыяту. Партыя як зброя дыктатуры пролетарыяту. Партыя—асноўная кіруючая сіла ў сыстэме дыктатуры пролетарыяту. Прывадныя рамені ад партыі да клясы, да мас. Партыя як адзінства волі, несумяшчальная з існаваньнем фракцый. Ідэйная і організацыйная монолітнасьць партыі як аснова яе адзінства. Ленін аб двух патоках дробнабуржуазных хістаньняў. Ленін і Сталін аб сутнасьці правага і «левага» опортунізму.

Барацьба на два франты як закон разьвіцьця партыі і прадпасылка яе перамог у барацьбе за дыктатуру пролетарыяту і пабудовы соцыялізму.

Бальшавіцкая партыі—партыя новага тыпу, якая ўзьнікла на гранітнай аснове рэволюцыйнага марксызму, у барацьбе з опортунізмам у рабочым руху Расіі і на міжнароднай арэне. Бальшавізм—адзіная ідэйная база Комінтэрну. Комінтэрн—партыя міжнароднага пролетарыяту, правадыр сусьветнай пролетарскай рэволюцыі.

Ленінская стратэгія і тактыка партыі як навука аб кіраўніцтве клясавай барацьбой пролетарыяту.

Організацыйныя прынцыпы бальшавізму. Дэмократычны цэнтралізм як організацыйны прынцып пабудовы партыі. Значэньне ўнутрыпартыйнай дэмократыі і самакрытыкі ў справе падвышэньня актыўнасьці, сьвядомасьці і бальшавіцкай стойкасьці партыйных мас. Суровейшай жалезная дысцыпліна ў партыі—адна з асноўных умоў посьпеху бальшавізму. Адзінства прынцыпу цэнтралізму, жалезнай дысцыпліны і дэмократыі. Барацьба і опортунізмам у оргпытаньнях. Барацьба на два франты, за бальшавіцкае адзінства партыі.

Партыя і правадыры. ЦК—колектыўны правадыр партыі. Ленін як тэорэтык, організатар і правадыр сусьветнага пролетарыяту і яго партыі і Комуністычнага інтэрнацыяналу. Роля т. Сталіна ў далейшым разьвіцьці ленінізму. Сталін у барацьбе за перамогу пабудовы соцыялізму ў СССР, за перамогу сусьветнай пролетарскай рэволюцыі. Роля т. Сталіна ў барацьбе супроць контррэволюцыйнага трацкізму, правага опортунізму і прымірэнцтва да ўхілаў ва ЎсеКП(б) і Комінтэрне.

Структура партыйных організацый. Ленінскі лёзунг «кожны завод павінен быць нашай крэпасьцю». Вытворчы прынцып пабудовы парторганізацый, які забясьпечвае сувязь партыі з масамі, мобілізацыю мас на барацьбу за генэральную лінію партыі. Ячэйка—аснова парторганізацыі. Абавязкі члена партыі.

Партыйны апарат як зброя партыі ў справе ажыцьцяўленьня політычных і організацыйных задач клясавай барацьбы пролетарыяту. Крытыка трацкісцкіх і праваопортуністычных скажэньняў ролі партапарату.

Статут УсеКП(б) як конкрэтнае выражэньне організацыйных прынцыпаў бальшавізму. Задачы партыйна-масавай работы на прадпрыемстве, у саўгасах, колгасе. Тры чарговыя зьвеньні партыйнай работы (прамова т. Кагановіча на пленуме МГК).

Міжнароднае значэньне організацыйных прынцыпаў бальшавізму. Выкарыстаньне організацыйнага вопыту УсеКП(б) у будаўніцтве Комуністычнага Інтэрнацыяналу. 21 умова ўступленьня ў Комінтэрн супроць опортунізму і соцыял-дэмократычных перажыткаў. Барацьба за ажыцьцяўленьне організацыйных прынцыпаў бальшавізму як барацьба за бальшавізацыю братэрскіх компартый. Адзінства програмы тактычных і організацыйных прынцыпаў бальшавізму.

ЛІТАРАТУРА ДА ТЭМЫ:

Маркс і Энгельс, Комуністычны маніфэст, разьдз. II, III і IV.

Ленін, „Детская болезнь „левизны“ в коммунизме“, Тв., т. XVII, разьдз. I—VIII, выд. 1-е.

Ленін, „Письмо к товарищу“, Тв., т. V, выд. 2-ое.

Ленін, „Что делать“, разьдз. V і II, Тв., т. V, выд. 2-ое.

Ленін, „Тезисы аб основных задачах II конгресса Коминтерна“, т. XVIII, стар. 229—244.

Ленін, Даклад і заключнае слова і рэзолюцыя па пытаньні аб адзінстве партыі і анарха-сындыкалістычным ухіле, Тв., т. XVIII, ч. I, стар. 155—172.

Сталін, „Об основах ленинизма“, разьдз. VII—„Стратегия и тактика“, разьдз. VIII—„Партия“, разьдз. IX—„Стиль в работе“.

Сталін, „К вопросам ленинизма“, разьдз. V—„Партия в системе диктатуры пролетариата“.

Сталін, „Об индустриализации страны и о правом уклоне в ВКП(б), разьдз. III, стар. 461—471, Зб. „Вопросы ленинизма“, выд. 1931 г.

Сталін. З дакладу на XVI зьезьдзе партыі, разьдз. „Вопросы руководства внутрипартийными делами“, стар. 689—696; з заключнага слова, стар. 710—716.

Сталін, Аб некаторых пытаньнях гісторыі бальшавізму.

Тэзісы—Аб ролі комуністычнай партыі і пролетарскай рэволюцыі, прынятыя II кангрэсам Комінтэрну, Зб. Бела Куна „Коминтерн в резолюциях“, стар. 38—49.

Тэзісы —аб бальшавізацыі компартый, прынятыя VI пленумам ВККІ (гл. там-жа, стар. 209—242).

Рэзолюцыя XV партконфэрэнцыі па дакладу т. Сталіна аб соцыял-дэмократычным ухіле ў нашай партыі.

Статут УсеКП(б).

Л. Кагановіч, Прамова на пленуме МГК, „Правда“ ад 7 мая 1932 г.

Тэма 2.

## Узьнікненьне, разьвіцьцё бальшавізму і яго міжнародны характар (16 гадз.)

Соцыяльна-эконоімічная абстаноўка, у якой узьнік і аформіўся бальшавізм. Расія—вузлавы пункт супярэчнасьцяй імпэрыялізму і цэнтр сусьветнага рэволюцыйнага руху. Расія—ачаг бальшавізму.

Інтэрнацыянальная сутнасьць бальшавізму (з пачатку яго ўзьнікненьня) як тэорыі і тактыкі пролетарскай рэволюцыі. «Бальшавізм—абагульненьне вопыту рэволюцыйнай барацьбы рабочых усіх краін» (Сталін) і «ўзор тактыкі для ўсіх» (Ленін). Антыленінскія тэорыі, якія характарызуюць бальшавізм як абмежаваную нацыянальную зьяву.

Міжнародны характар барацьбы Леніна за партыю новага тыпу ў 90-х гадох і ў пэрыод старой «Іскры». Група «Освобождения труда» ў організацыі соцыял-дэмократычнага руху ў Расіі. Антыленінская сутнасьць погляду, што Плеханаў быў тэорэтыкам і асновапаложнікам бальшавізму.

Барацьба бальшавізму з опортунізмам і цэнтрызмам за стварэньне партыі новага тыпу. Ленін і Сталін аб соцыяльна-экономічных каранёх опортунізму ў эпоху імпэрыялізму. Процэс опортуністычнага перараджэньня II Інтэрнацыяналу і сутнасьць цэнтрызму. Барацьба Леніна супроць рускага опортунізму (легальны марксызм, экономізм) у 90-х гадох і ў пэрыод старой «Іскры» была ў той-жа самы час барацьбой супроць опортунізму II Інтэрнацыяналу.

Барацьба бальшавікоў з рознымі відамі опортунізму на II зьезьдзе за стварэньне партыі новага тыпу. Скажэньне гісторыі гэтай барацьбы трацкісцкімі контрабандыстамі. Міжнароднае значэньне расколу, зьдзейсьненага бальшавікамі ў РСДРП. Барацьба бальшавізму ў радох II Інтэрнацыяналу як адзіна пасьлядоўная барацьба за раскол з опортунізмам і цэнтрызмам, за стварэньне сусьветнай партыі новага тыпу. Падтрымка бальшавікамі расколу ў паасобных партыях II Інтэрнацыяналу (Галяндыя, Італія, Польшча). Меншавізм як руская рознавіднасьць міжнароднага опортунізму, трацкізм—рознавіднасьць цэнтрызму. Галоўныя этапы барацьбы бальшавікоў з опортунізмам і цэнтрызмам на міжнароднай арэне і значэньне ліста т. Сталіна ў выкрыцьці трацкісцкай фальсыфікацыі гісторыі барацьбы бальшавікоў з опортуністамі і цэнтрыстамі да вайны на міжнароднай арэне.

Бальшавікі і левыя радыкалы да вайны. Барацьба бальшавікоў за ідэйнае і організацыйнае афармленьне левых у II Інтэрнацыянале на базе ленінізму і на аснове правядзеньня політыкі расколу ў II Інтэрнацыянале. Організацыйная неафармленасьць і ідэолёгічная непасьлядоўнасьць «левых» на чале з Люксэмбург у II Інтэрнацыянале як асноўная перашкода ў ажыцьцяўленьні бальшавікамі расколу ў II Інтэрнацыянале.

Крах II Інтэрнацыяналу як рэзультат яго опортуністычнага перараджэньня, адкрытага пераходу ў лягер шовіністаў. Бальшавікі ў барацьбе супроць соцыял-шовінізму і цэнтрызму ў гады

вайны. Барацьба бальшавікоў за стварэньне III Інтэрнацыяналу. Левыя радыкалы ў гады вайны. Бальшавікі і «левыя» цымэрвальдысты. Барацьба бальшавікоў у гады вайны за згуртаваньне «левых» на глебе ленінізму, за іх вызваленьне ад меншавіцкага цяжару і цэнтрысцкіх ілюзій.

Кіруючая роля бальшавікоў у стварэньні III Інтэрнацыяналу. Бальшавізм як адзіная ідэйная база Комінтэрну. УсеКП(б)—вядучы галаўны атрад Комінтэрну. Рашучая барацьба з антыленінскай тэорыяй «мастоў», «ручайкоў». Значэньне ліста т. Сталіна для выкрыцьця паўменшавіцкіх памылак люксэмбургіянства, у справе бальшавізацыі братэрскіх компартый.

ЛІТАРАТУРА ДА ТЭМЫ:

„Сталін, „Вопросы ленинизма“, выд. 9-е, разьдз.: а) „Исторические корни ленинизма“. б) „Теория“, в) „О некоторых вопросах истории большевизма“, г) „Октябрьская революция и тактика русских коммунистов“.

Ленін, „Ближайшие задачи русского рабочего движения“, Тв., выд. 3-е, т. II, стар. 612—615.

Ленін, „Что делать? Шаг вперед, два шага назад“, стар. 155—336.

Ленін, „Разногласия в европейском рабочем движении“, т. XV, стар. 5—9.

Ленін, „Интернационал молодежи“, стар. 294—297; „Итоги дискуссии о самоопределении“, стар. 262.

Ленін, „Марксизм и ревизионизм“, т. XII, стар. 179—190; „Реформизм в русской социал-демократии“, т. XV, стар. 207—217; „Международный социалистический конгресс в Штутгарте“, т. XII.

Ленін, „Положение и задачи социалистическог о Интернационала“, т. XVIII, стар. 67—72.

Ленін, „Пролетарская революция и ренегат Каутский“, т. XXIII, стар. 218—225.

Ленін, „О карикатуре на марксизм и об империалистическом экономизме“, т. XIX. стар. 191—235.

Ленін, „О либеральном и марксистском понимании классовой борьбы“, т. XVI, стар. 397—402.

Ленін, „Крах платонического интернационализма“, т. XVIII, стар. 156—161; „Революционный марксизм на международном социалистическом конгрессе“, стар. 302—306.

Ленін, „Задачи левых циммервальдовцев“, т. XIX, стар. 333—342; Прамова на зьезьдзе швэйцарскай социял-дэмократычнай партыі, стар. 277—280; О брошюре Юниуса“, стар. 176—191.

Пакроўскі, „Очерки по истории революционного движения в России XIX—XX вв.“

Тэма 3

## Бальшавізм у рэволюцыі 1905 г. (18 гадз.)

Рэволюцыя 1905 г.—першая буржуазна-дэмократычная рэволюцыя эпохі імпэрыялізму. Асноўная прычына рэволюцыі 1905 г.—«карэнная супярэчнасьць паміж высока разьвітым прамысловым капіталізмм і прыгоньніцкім зямляўладаньнем» (Ленін).

Своеасаблівасьць рэволюцыі 1905—1907 гг. з пункту погляду асаблівасьцяй эпохі (імпэрыялізм), характару рэволюцыі (буржуазна-дэмократычная), яе рухальных сіл (пролетарыят—гегемон рэволюцыі, сялянства—саюзьнік) і мэтодаў барацьбы (пролетарскія; стачка, узброеныя паўстаньні). Рэволюцыя 1905—1907 гг.—генэральная рэпэтыцыя Кастрычніцкай рэволюцыі 1917 г.

Ленін аб перарастаньні буржуазна-дэмократычнай рэволюцыі ў соцыялістычную. «Ад рэволюцыі дэмократычнай мы адразу-ж пачнем пераходзіць, і якраз у меру нашай сілы, сілы сьвядомага і організаванага пролетарыяту, пачнем пераходзіць да соцыялістычнай рэволюцыі». Барацьба за рэволюцыйна-дэмократычную дыктатуру пролетарыяту і сялянства, за гегемонію пролетарыяту ў ёй як барацьба за перарастаньне буржуазна-дэмократычнай рэволюцыі ў соцыялістычную. Барацьба з опортуністычнай тэорыяй II Інтэрнацыяналу аб «кітайскай сьцяне» паміж буржуазна-дэмократычнай і соцыялістычнай рэволюцыяй. Барацьба супроць трацкісцкага паклёпу і контрабанды ў пытаньні перарастаньня.

Барацьба бальшавікоў з лібэральна-буржуазнай ацэнкай рэволюцыі 1905—1907 гг.—меншавізмам і трацкізмам, гэтай рознавіднасьцю меншавізму. Тэорыя «перманэнтнай» рэволюцыі Парвуса—Троцкага і яе контррэволюцыйная сутнасьць; няверʼе ў гегемонію пролетарыяту, адмаўленьне рэволюцыйнай ролі сялянства, адмаўленьне магчымасьці пабудаваньня соцыялізму ў аднэй краіне. Барацьба з паўменшавіцкімі ваганьнямі. Р Люксэмбург у асноўных пытаньнях рэволюцыі 1905—1907 гг.

Дзьве тактыкі ў рэволюцыі 1905—1907 гг.: пасьлядоўна-рэволюцыйная—бальшавіцкая і лібэральна-буржуазная—хвасьцісцкая меншавіцкая. Бальшавізм у барацьбе за гегемонію пролетарыяту і яго рэзэрвы ў рэволюцыі (сялянства, нацыянальна-дэмократычны рух і інш.). Асноўныя рашэньні III зьезду партыі, іх міжнароднае

значэньне. Рашучае выступленьне Леніна супроць цэнтрысцкай ацэнкі Каўцкім рашэньняў III зьезду партыі.

Тактыка партыі і яе адносіны да саветаў, сялянскага руху, паўстаньняў у арміі і профсаюзаў. Барацьба Леніна (бальшавікоў) за радыкальнае вырашэньне аграрнага пытаньня. Тактыка ў адносінах на буржуазіі. Меншавізм і трацкізм—агентура буржуазіі ў рабочым руху. Бальшавікі аб усеагульнай стачцы і ўзброеным паўстаньні. Падрыхтоўка і кіраўніцтва партыяй узброеным паўстаньнем у рэволюцыі 1905—1907 гг. Ваенна-баявая работа партыі. Бальшавізм аб часовым рэволюцыйным урадзе і саветах. Саветы як органы паўстаньня, як зародкавыя органы ўлады. Парляманцкая тактыка бальшавікоў у рэволюцыі 1905—1907 гг. Нацыянальнае пытаньне ў рэволюцыі 1905—1907 гг. і барацьба супроць люксэмбургіянцтва.

Кіраўніцтва пролетарыяту рэволюцыйнай барацьбой пр..гнечаных нацыянальнасьцяй. Бальшавіцкая тактыка—шлях, які забясьпечвае перарастаньне буржуазнай дэмократычнай рэволюцыі ў социялістычную. Асноўныя этапы рэволюцыі 1905—1907 гг. і гістарычная праверка правільнасьці бальшавіцкай тактыкі. Прычыны паражэньня рэволюцыі 1905 г.

Будаўніцтва бальшавіцкай партыі за гады рэволюцыі. Рост партыі. Новыя кадры. Новыя формы работы. Часовае аб'яднаньне з меншавікамі пры захаваньні бальшавіцкай організацыі самастойнасьці як тактыка адзінага фронту з мэтай адваяваньня ад меншавікоў рабочых мас. Барацьба на два фронты і з прымірэнцтвам у радох бальшавікоў у 1905—1907 гг. як рашаючая ўмова ідэйнага і організацыйнага ўмацаваньня бальшавіцкай партыі.

Міжнароднае значэньне рэволюцыі 1905—1907 гг. Значэньне вопыту бальшавізму ў рэволюцыі для Комінтэрну (у прыватнасьці для кітайскай компартыі). Пацьверджаньне правільнасьці стратэгіі і тактыкі бальшавізму ў рэволюцыі 1905—1907 гг. на вопыце наступных рэволюцый (люты—кастрычнік 1917 г.) і рэволюцыі ў Кітаі.

Барацьба з трацкісцкім скажэньнем міжнароднага характару рэволюцыі 1905—1907 гг.

Значэньне ліста т. Сталіна ў выкрыцьці паўменшавіцкіх памылак люксэмбургіянства ў 1905—1907 гг. і барацьба Комінтэру за бальшавізацыю братэрскіх компартый.

ЛІТАРАТУРА ДА ТЭМЫ:

Ленін, Тв., выд. 3-е. „Аграрный вопрос и силы революции", т. XI, стар. 152—155; „К вопросу об общенациональной революции", стар. 204—208; „Аграрная программа социалистической демократии в первой русской революции 1905—1907 г. г.", стар. 361—366, 417—449; „Революция и контрреволюция", т. XII, стар. 71—78; „О „природе", русской революции", стар. 174—179; „Уроки коммуны", стар. 162—165; „К оценке русской революции", стар. 202—215; „Лев Толстой как зеркало русской революции", стар. 331—336; „Об оценке текущего момента", стар. 375—386; „Цель борьбы пролетариата в нашей революции" т. XIV стар. 36—52; „Уроки рэволюции", стар. 369—374. „Доклад о революции 1905 г.", т. XIX, стар. 343—358; „О двух линиях": т. XVIII, стар. 314—319; „Две тактики социал-демократов в демократической революции", т. VIII, стар. 35—37, 43—70, 76—86, 90—106. „Открытое письмо в „Leipziger Volkszeitung". Сердитое бессилье, „Ленинский сборник" XVI, стар. 111—112, 123—127.

Сталін, „О некоторых вопросах истории большевизма". „Основы ленинизма", разьдз.—„Теория", „Крестьянский вопрос".

Кагановіч, „За большевистское изучение истории партии".

Тэма 4

## Партыя ў пэрыод паміж дзьвюма рэволюцыямі (гады рэакцыі, уздыму і імпэрыялістычнай вайны (12 гадзін)

Зьмена ў суадносінах клясавых сіл пасьля рэволюцыі 1905—1907 гг. Блёк паміж самадзяржаўем і буржуазіяй. Заняпад і разброд рэволюцыйнага руху і наступленьне рэакцыі. Ацэнка бальшавікамі бягучага моманту і тактыка організаванага адступленьня для падрыхтоўкі да новага наступленьня. Барацьба бальшавікоў супроць маншавізму, ліквідатарства і трацкізму за партыю, за гегемонію пролетарыяту і падрыхтоўку новага рэволюцыйнага ўздыму. Барацьба бальшавікоў за вызваленьне сялянства з-пад уплыву лібэральнай буржуазіі. Спалучэньне легальных і нелегальных мэтодаў і форм барацьбы. Барацьба бальшавіцкай партыі за ачышчэньне і ўзмацненьне сваіх радоў супроць адзавізму, ультыматызму і ўпяродаўцаў. Барацьба бальшавізму за раскол у II Інтэрнацыянале.

Новы ўздым рэволюцыйнага руху. Рост уплыву бальшавіцкай партыі ў рабочых масах і паражэньне ліквідатарства. Праская конфэрэнцыя 1912 г. як завяршэньне разьмежаваньня і організацыйнага афармленьня бальшавіцкай партыі. Стварэньне моцнай базы партыі на фабрыках і заводах. Заваяваньне бальшавікамі ўплыву

у прафсаюзах (мэталістаў). Роля партыйных нарад 1913 г. у справе ўмацаваньня радоў партыі і роля партячэек у справе выхаваньня новых кадраў. Трацкісцка-ліквідатарскі жнівеньскі блёк як узор дробнабуржуазнай бяспрынцыпнасьці і бяспомачнасьці цэнтрызму.

Роля бальшавіцкага друку («Звезда», «Правда») у барацьбе за заваяваньне і організацыю мас, умацаваньне рэволюцыйнай партыі пролетарыяту, у барацьбе з опортунізмам і цэнтрызмам.

Ленінская тэорыя імпэрыялізму. Ленін аб законе няроўнамернага разьвіцьця капіталізму ў эпоху імпэрыялізму і пытаньне аб перамозе соцыялізму ў аднэй краіне.

Ацэнка Леніным новай эпохі як эпохі імпэрыялістычных войн і пролетарскіх рэволюцый. Барацьба партыі за ператварэньне імпэрыялістычнай вайны ў вайну грамадзянскую. Барацьба бальшавізму з пануючай у II Інтэрнацыянале тэорыяй ультра-імпэрыялізму, з люксэмбургіянскай тэорыяй імпэрыялізму і з соцыялшовіністкай і цэнтрысцкай ацэнкай імпэрыялістычнай вайны. Крах II Інтэрнацыяналу як рэзультат яго опортуністычнага перараджэньня. Соцыял-шовінізм, цэнтрызм. Бальшавізм як сапраўдны інтэрнацыяналізм у сусьветным рабочым руху ў часе вайны. Барацьба бальшавізму супроць соцыял-шовінізму і цэнтрызму ў гады вайны—за стварэньне III Інтэрнацыяналу. Левыя радыкалы ў гады вайны і барацьба бальшавікоў за вызваленьне іх (левых) ад соцыял-дэмократычных і цэнтрысцкіх ілюзій. Барацьба з «левымі» бальшавікамі (Пятакоў, Бухарын і інш.) і правымі (Каменеў)

Рост уплыву бальшавізму ў шырокіх рабочых і салдацкіх масах і кіраўніцтва партыі масавым рухам ва ўмовах нарастаючага рэволюцыйнага крызісу ў Расіі. Работа партыі ў арміі і ва флёце. Значэньне вопыту тактыкі партыі гадоў рэакцыі, уздыму і імпэрыялістычнай вайны для сэкцыі КІ.

ЛІТАРАТУРА ДА ТЭМЫ:

Ленін. Тв., выд. 3-е. „Революция и контрреволюция", т. XII, стар. 71—78; „Против бойкота", стар. 13—42; „Заметки публициста", стар. 45—57; „Об оценке текущего момента", стар. 375—386

„Резолюция декабрьской конференции 1908 г. о современном моменте и т. д.", т. XIV, стар. 1—12; „На дорогу", стар. 24—33; „Ликвидация ликвидаторства", стар. 104—111; Карикатура на большевизм", стар. 52—61; „Разоблачение ликвидаторов", стар. 130—137; „Заметка публициста", стар. 287—338; „Резолюция

совещания расширенной редакции „Пролетария", стар. 85—103; „О фракции сторонников отзовизма и богостроительства", стар. 137—167.

„Исторический смысл внутрипартийной борьбы в России, т. XV, стар. 10—25; „О положении дел в партии", стар. 60—71; „О социальной структуре власти, перспективах и ликвидаторстве", стар. 122—138; „Манифест либеральной рабочей партии", стар. 266—272; „О новой фракции примиренцев или добродетельных", стар. 228—244; „Принципиальные вопросы избирательной кампании", стар. 331—352.

„О нарушении единства, прикрываемом криками о единстве", т. XVII, стар. 377—394.

„Империализм как новейший этап капитализма", т. XIX, разьдз. VII; „О лозунге соединенных штатов Европы", т. XVIII, стар. 230.

„Война и российская социал-демократия", т. XVIII, стар. 57—67; „Социализм и война", стар. 193—223; „Конференция заграничных секций РСДРП", стар. 124—128; „О поражении своего правительства в империалистической войне", стар. 169—174; „Несколько тезисов", стар. 111—114; „Что доказал суд над РСДРП фракцией" стар. 129—134. „Русские зюдекумы", стар. 81—97; „Революционные марксисты на международной социалистической конференции 5 — 8 сентября 1915 г.", стар. 302—306.

„Есть ли своя линия у ОК и фракции Чхеидзе?" т. XIX, стар. 25—30; „Фракция Чхеидзе и ее роль", стар. 290—294.

Тэма 5

## Партыя і рэволюцыя 1917 г. (18 гадзін)

Міжнароднае і ўнутранае становішча Расіі ў 1917 г. Ленінская ацэнка характару і пэрспэктыў Лютаўскай рэволюцыі. Сутнасьць і прычыны дваяўласьця. Красавіцкія тэзісы Леніна і Ўсерасійская красавіцкая конфэрэнцыя ЎсеКП(б).

Роля партыі як арганізатара і кіраўніка Лютаўскай рэволюцыі 1917 г. і раскрыцьцё трацкісцка-шляпнікаўскага паклёпу на лінію і ролю партыі ў Лютаўскай рэволюцыі.

Барацьба партыі супроць правых (Каменеў, Рыкаў), «левых» (Бухарын, Пятакоў), супроць тэорыі пэрманэнтнай рэволюцыі Троцкага.

Ажыцьцяўленьне ў 1917 г. ленінскага вучэньня аб перарастаньні буржуазна-дэмократычнай рэволюцыі ў соцыялістычную.

Адзінства ленінскага пляну перарастаньня буржуазна-дэмократычнай рэволюцыі ў соцыялістычную да рэволюцыі 1905 г., у 1905 г. і ў 1917 г. Выкрыцьцё трацкісцкага паклёпу аб «пераўзбраеньні» бальшавізму і контрабанды ў пытаньні аб перарастаньні.

Барацьба партыі за ленінскае разуменьне рэспублікі саветаў як дзяржавы тыпу комуны, супроць меншавіцкіх і паўанархісцкіх поглядаў (Каменеў, Троцкі, Бухарын).

Партыя ў барацьбе за ўладу ў 1917 г. Барацьба за ўладу як асноўнае пытаньне рэвалюцыі. «Беспадзельнае кіраўніцтва аднэй партыі, партыі комуністаў, як асноўны момант падрыхтоўкі Кастрычніка» (Сталін). Ізоляцыя партыі меншавікоў і эсэраў. Заваяваньне большасьці рабочай клясы. Барацьба за саветы.

Лёзунг «уся ўлада саветам». Значэньне гэтага лёзунгу да і пасьля ліпеньскіх дзён. Барацьба бальшавікоў за масавыя пролетарскія організацыі (профсаюзы, фабзаўкомы і т. д.). Барацьба бальшавікоў за разлажэньне старой арміі, за салдацкія масы і стварэньне пролетарскай узброенай сілы. VI зьезд партыі. Тактыка бальшавікоў у карнілаўскія дні. Новы клясавы зьмест лёзунгу «ўся ўлада саветам». «Прамы падыход рэвалюцыі да дыктатуры пролетарыяту шляхам паўстаньня. Організацыя і дзяржаўнае афармленьне дыктатуры пролетарыяту» (Сталін). Значэньне гэтага вопыту для братэрскіх компартый.

Організацыя бальшавікамі ўзброенага паўстаньня ў Кастрычніку. Штрэйкбрэхерства Зіноўева, Каменева, Шляпнікава. Значэньне вопыту кастрычніцкага ўзброенага паўстаньня для братэрскіх компартый. Монолітнасьць бальшавіцкай партыі і яе згуртаванасьць вакол Леніна і ЦК у 1917 г. Контррэволюцыйная сутнасьць троцкісцкага паклёпу на ролю партыі ў пэрыод Кастрычніка. Кастрычніцкая рэволюцыя—соцыялістычная рэволюцыя, якая мімаходзь, папутна завяршае задачы буржуазна-дэмократычнай рэволюцыі. Ліквідацыя памешчыцкага і кулацкага землеўладаньня, організацыя комбедаў, нацыяналізацыя зямлі. Пролетарыят у саюзе з бяднейшым сялянствам—рухальныя сілы Кастрычніцкай рэволюцыі.

Міжнародны характар Кастрычніцкай рэволюцыі. Кастрычніцкая рэволюцыя—прарыў ланцугу імпэрыялізму ў яе найбольш слабым зьвяне. Опортуністычныя памылкі Бухарына ў гэтым пытаньні. Кастрычніцкая рэволюцыя як «пачатак і прадпасылка сусьветнай соцыялістычнай рэволюцыі, як першы этап сусьветнай рэволюцыі і магутная база для далейшага разьвіцьця» (Сталін).

Барацьба супроць троцкісцкай і люксэмбургіянскай ацэнкі Кастрычніцкай рэволюцыі. Уплыў Кастрычніцкай рэволюцыі на сусьветны рэволюцыйны рух на Захадзе і Ўсходзе. Значэньне вопыту барацьбы за Кастрычнік для братэрскіх компартый.

ЛІТАРАТУРА ДА ТЭМЫ:

Ленін, Тв., 3-е „Социализм и война“ т. XVIII, стар. 185—223; „О лозунге Соединенных штатов Европы“, стар. 230—235.

„Письмо издалека“, т. XX, стар. 17—43; „Письмо Ганецкаму“, стар. 52—56; „О задачах пролетариата в данной революции“, стар. 87—90; „О двоевластии“ стар. 94—99; „Письмо о тактике“, стар. 99—108; „Задачи пролетариата в нашей революции“, стар. 111—135; „Политические партии в России и задачи пролетариата“, стар. 136—145; „Добросовестное оборончество показывает себя“, стар. 218—221; „Уроки кризиса“, стар. 226—229; „Исчезло ли двоевластие,“ стар. 391—394, „Переход контрреволюции в наступление“, стар. 434—437; Прамовы на I Усерасійскім зьезьдзе саветаў, стар. 477—499; „Куда привели революцию эсеры и меншевики“, стар. 553—555; „Классовый сдвиг“, стар. 570—572; „Как и почему крестьян обманули“, стар. 580—583.

„Где власть и контрреволюция“, т. XXI, стар. 9—13; „Три кризиса“, стар. 20—24; „К лозунгам“, стар. 33—39; „О конституционных иллюзиях“, стар. 48—59; „Начало бонапартизма“, стар. 60—65; „Уроки революции“, стар. 65—77; О выступлении Каменева в ЦИК по поводу Стокгольмской конференции“, стар. 78—80; „В Центральный комитет РСДРП“, стар. 116—121; „О компромиссах“, стар. 132—137; „Грозящая катастрофа и как с ней бороться“, стар. 155—192; „Большевики должны взять власть“, стар. 193—195; „Марксизм и восстание“, стар. 195—200; „Русская революция и гражданская война“, стар. 200—211; „Из дневника публициста“, стар. 215—221; „Кризис назрел“, стар. 235—241; „Удержат ли большевики государственную власть“, стар. 243—284; „Письмо питерской городской конференции“, стар. 290; „Письмо в ЦК, МК, ПК и большевикам—членам советов Питера и Москвы“, стар. 293, 358, 362; „Советы постороннего“, стар. 319—321; „Письмо к товарищам большевикам, участвующим на областном с'езде советов Северной области“, стар. 321—326; „Заседание ЦК 23 и 29 октября“, стар. 326—330, „Письмо к товарищам“, стар. 334—349.

Сталін, „Вопросы ленинизма“, разьдз. „Октябрьская революция и тактика русских коммунистов“.

Сталін „Об оппозиции“, разьдз. „Троцкизм или ленинизм“.

Тэма 6

## Партыя ў гады грамадзянскай вайны (10 гадз.)

Партыя ў барацьбе за ўмацаваньне дыктатуры пролетарыяту супроць унутранай і зьнешняй контррэволюцыі. Першыя дэкрэты Кастрычніка—першыя крокі социялістычнага будаўніцтва. Дэкрэты аб зямлі, аб міры, аб рабочым контролі і інш. Дэкрэт аб соцыялізацыі зямлі як пляцформа згоды з асноўнымі масамі сялянства. Барацьба Леніна і партыі за мір, за перадышку. Брэсцкі мір. Экономічны плян Леніна вясны 1918 г.—програма будаўніцтва соцыялізму. Ленін аб пяці гаспадарчых укладах. Соцыялізм і дзяржкапіталізм супроць прыватнага капіталізму і дробнабуржу-

азнай стыхіі. Партыя ў барацьбе з «левымі» комуністамі і Троцкім за ленінскі экономічны плян. Комітэты беднаты і іх значэньне ў разьвіцьці пролетарскай рэволюцыі.

Ленін і партыя ў барацьбе на два фронты—з капітулянцтвам правых опортуністаў і з авантурызмам «левых» комуністаў і Троцкага. Фракцыйная работа «левых» комуністаў. Соцыяльныя карэньні «левага» комунізму, «сшалелы дробны буржуа». Адзінства пляцформы «левага» комунізму з трацкізмам, авантурызм у ацэнцы пэрспэктыў сусьветнай рэволюцыі; адмаўленьне магчымасьці перамогі пролетарскай рэволюцыі і пабудовы соцыялізму ў аднэй краіне; ігнараваньне сялянства і авантурыстычны погляд на барацьбу з імпэрыялізмам; абвінавачваньне партыі ў сялянскім ухіле і «перараджэньні». Барацьба партыі з контррэволюцыйнымі выступленьнямі левых эсэраў.

Партыя—організатар і кіраўнік барацьбы за ўмацаваньне диктатуры пролетарыяту. Організацыя абароны пролетарскай дзяржавы. Пераход да організацыі рэгулярнай Чырвонай арміі. Партыя—організатар і кіраўнік Чырвонай арміі. Ваенная палітыка партыі. Легенда аб ролі Троцкага ў грамадзянскай вайне як трацкісцкая фальсыфікацыя гісторыі бальшавізму. Роля партыі, Леніна і Сталіна ў кіраўніцтве грамадзянскай вайной і організацыя перамогі савецкай улады.

Разгром унутранай і зьнешняй контррэволюцыі як рэзультат героічнай барацьбы пролетарыяту і бяднейшага сялянства ў саюзе з сярэднім сялянствам, пад кіраўніцтвам партыі, пры падтрыманьні з боку міжнароднага пролетарыяту.

Зьмест і значэньне політыкі ваеннага комунізму. Ленінская ацэнка ваеннага комунізму. Ваенна-політычны саюз пролетарыяту і сярэдняга сялянства і яго экономічная аснова. Міжнароднае значэньне вопыту грамадзянскай вайны. Програма КІ аб міжнародным значэньні політыкі ваеннага комунізму.

VIII зьезд партыі—ад нэўтралізацыі серадняка да саюзу з ім. Ленінскі стратэгічны лёзунг: «Умець дасягнуць згоды з сярэднім селянінам, ні на хвіліну не адмаўляючыся ад барацьбы з кулаком і моцна абапіраючыся на беднату» (Ленін). Ленін і партыя ў барацьбе з люксэмбургскімі поглядамі «левых» (Бухарын, Пятакоў і інш.), у пытаньні аб програме партыі, па нацыянальным і сялянскім пытаньні. Програма партыі па нацыянальным пытаньні. Унутрыпартыйнае будаўніцтва ў гады грамадзянскай вайны.

Партыя ў барацьбе з групай дэмакратычнага цэнтралізму. Утварэньне нацыянальных компартый. Роля ЦК УсеКП(б), Леніна і Сталіна ў барацьбе за правільную нацыянальную і сялянскую палітыку нацкомпартый. Сьнежаньская конфэрэнцыя 1919 г. і яе значэньне. Роля партыі і Леніна ва ўтварэньні Комінтэрну. Кастрычніцкая рэволюцыя і грамадзянская вайна як фактары росту, уздыму міжнароднага рэволюцыйнага руху (рэволюцыя ў Германіі, Аўстрыі, савецкія рэспублікі ў Баварыі, Вэнгрыі).

ЛІТАРАТУРА ДА ТЭМЫ:

Ленін, Тв., выд. 3-е. Усерасійскі зьезд саветаў 7—8 лістапада 1917 г., т. XXII, стар. 7—24; Проект палажэньня аб рабочым контролі, стар. 25; Нарада палкавых прадстаўнікоў петраградзкага гарнізону, стар. 30—33; Рэзолюцыя ЦК РСДРП(б) на пытаньні аб згодзе соцыялістычнай партыі, стар. 36—38; Ультыматум большасьці ЦК РСДРП(б) меншасьці, стар. 38—41; Пасяджэньне УсеРЦВК 17 лістапада 1917 г., стар. 41—48; Надзвычайны зьезд саветаў сялянскіх дэпутатаў, стар. 79—88; Дэкрэт аб арышце правадыроў грамадзянскай вайны супроць рэволюцыі, стар. 104—107. Пасяджэньне УсеРЦВК ад 14 сьнежня 1917 г., стар. 108—112; Прамова аб роспуску ўстаноўчага сабраньня, Проект дэкрэту аб роспуску ўстаноўчага сабраньня, стар. 184—193; Тэзісы на пытаньні аб безадкладным заключэньні сэпаратнага і анэксіяністкага міру; Прамова аб вайне і міру на пасяджэньні ЦК РСДРП(б), стар. 193—203; Нарада прэзыдыуму Петраградзкага савету з прадстаўнікамі харчавальных арганізацый, стар. 243—244; „О революционной фразе“, стар. 261—267; VII зьезд РКП(б), стар, 311—374; О „левом“ ребячестве и мелкобуржуазности“, стар. 503—528; „Очередные задачи советской власти“, стар. 435—468.

Даклад аб бягучым моманце на конфэрэнцыі профсаюзаў і мясцкомаў Масквы, т. XXIII, стар. 77—102; Заключнае слова на пасяджэньні ЎсеРЦВК, стар. 52—65; Аб'яднанае паседжаньне ЎсеРЦВК, Маскоўскага савету і т. д, стар. 45—65; „Ценные признания Питирима Сорокина“, стар. 289—297; Сход партыйных работнікаў Масквы, стар. 305—330.

VIII Зьезд РКП(б), т. XXIV, стар. 109—179; Прамова аб рабоце ў вёсцы, т. XXV, стар. 294—305; Прамова на зьезьдзе палітасьветы, стар. 448—457; Прамова на Маскоўскай губпарткамфэрэнцыі, стар. 481—497.

Сталін. „Вопросы ленинизма“. „Ленин и вопрос о союзе с середняком“; „О трех лозунгах партии по крестьянскому вопросу“.

Тэма 7

## Партыя пры пераходзе ад ваеннага комунізму да нэпу і ў адстанаўляльны пэрыод (12 гадз.)

Ленін, Сталін і партыя аб нэпе. Нэп як адзіна правільная палітыка пролетарыяту ў пераходны пэрыод ад капіталізму да соцыялізму. «Нэп ёсьць асобая палітыка пролетарскай дзяржавы,

разьлічаная на дапушчэньне капіталізму пры наяўнасьці каманд-ных вышынь у руках пролетарскай дзяржавы, разьлічаная на ба-рацьбу элемэнтаў капіталістычных і соцыялістычных, разьлічаная на ўзрастаньне ролі соцыялістычных элемэнтаў у шкоду элемэнтам капіталістычным, разьлічаная на перамогу соцыялістычных элемэнтаў над капіталістычнымі элемэнтамі, разьлічаная на зьніштажэньне кляс, на пабудову фундаманту соцыялістычнай экономікі» (Сталін). Барацьба партыі з праваопортуністычнай і трацкісцкай концэпцыяй нэпу.

Програма Комінтэрну аб нэпе. Міжнароднае значэньне нэпу.

Партыя ў барацьбе на два фронты з опортунізмам, за ле-нінскую лінію ў пэрыод пераходу да нэпу. Прадпасылкі пераходу да нэпу, экономічнае і політычнае становішча краіны к канцу грамадзянскай вайны. Пераход ад ваенна-політычнага саюзу паміж пролетарыятам і сярэднім сялянствам да экономічнага. Дыскусія аб профсаюзах. Бальшавізм у барацьбе з трацкісцкімі і анарха-сындыкалісцкімі ўхіламі («рабочая» опозыцыя) ў партыі. Пляц-форма Троцкага аб абдзяржаўленьні профсаюзаў як працяг політыкі ваеннага комунізму ў новай абстаноўцы, політыка, якая вядзе к разрыву саюзу пролетарыяту з асноўнымі масамі сялянства. Буфэрная позыцыя Бухарына і яго спаўзаньне да трацкізму. Адзіная сутнасьць трацкісцкай, анархасындыкалісцкай і буфэрнай позыцыі па пытаньні аб ролі профсаюзаў—рэвізія ленінскага вучэньня аб дыктатуры пролетарыяту.

Партыя ў барацьбе з ухіламі ў нацыянальным пытаньні (вялікадзяржаўны ўхіл—галоўная небясьпека). Роля Сталіна ў барацьбе за ленінскую нацыянальную політыку.

Барацьба партыі за адзінства сваіх радоў. X зьезд аб адзінстве партыі. Чыстка партыі і яе значэньне ва ўмацаваньні адзінства.

Наступленьне на аснове нэпу. XI зьезд партыі аб нэпе. Ленін аб пэрспэктывах соцыялістычнага будаўніцтва і ролі цяжкой індустрыі.

Адзінства ленінскага пляну соцыялістычнага будаўніцтва; ленінскі плян электрыфікацыі і яго роля ў соцыялістычным будаўніцтве; коопэрацыйны плян Леніна як шлях соцыялістычнай перапрацоўкі дробнай працоўнай сялянскай гаспадаркі; Ленін аб рэорганізацыі дзяржаўнага апарату ў барацьбе з бюрократызмам. Ленін аб проблеме культурнай рэволюцыі ў агульным пляне

соцыялістычнага будаўніцтва. Програма партыі ў пытаньні соцыялістычнага будаўніцтва.

Партыя ў барацьбе з дробнабуржуазнай опозыцыяй трацкістаў і групай «дэмократычнага цэнтралізму». Экономічны крызіс восені 1923 году і ўзмацненьне дробнабуржуазных хістаньняў у партыі. Сутнасьць экономічнай пляцформы опозыцыі: «звышіндустрыялізацыя», політыка павышэньня цэн, ліквідацыя монополіі замежнага гандлю, таварная інтэрвэнцыя, ігнараваньне саюзу з серадняком. Капітулянцкая сутнасьць «звышіндустрыялізацыі» Троцкага. Меншавіцкая сутнасьць пляцформы трацкісцкай опозыцыі ва ўнутрыпартыйных пытаньнях (барацьба за свабоду фракцый і груповак, дыскрэдытацыя старой гвардыі, супроцьстаўленьне пакаленьняў і т. д. ). Барацьба з меншавіцкай фальсыфікацыяй гісторыі бальшавізму. «Уроки Октября»—Троцкага. Роля Сталіна ў барацьбе з антыпартыйнымі ўхіламі ў партыі.

Партыя ў барацьбе за ўмацаваньне рабоча-сялянскай змычкі. XIV партконфэрэнцыя аб пабудове соцыялізму ў аднэй краіне. Партыя ў барацьбе на два фронты: з праваопортуністычным адмаўленьнем небясьпекі кулака (Бухарын) і з трацкісцкім ігнараваньнем барацьбы за серадняка як цэнтральнай фігуры земляробства. Партыя аб нацыянальным культурным будаўніцтве і барацьба на два франты: з вялікадзяржаўным шовінізмам як з галоўнай небясьпекай і мясцовым нацыоналізмам. Утварэньне СССР як узор ленінскага вырашэньня нацыянальнага пытаньня.

Міжнароднае становішча, адносная стабілізацыя капіталізму і тактыка Комінтэрну. У конгрэсе Комінтэрну аб тактыцы адзінага фронту і бальшавізацыі братэрскіх партый.

Новая опозыцыя (Зіноўеў, Каменеў). Пытаньне аб пабудове соцыялізму ў аднэй краіне як асноўнае пытаньне барацьбы партыі з опозыцыяй. Рэвізія новай опозыцыі ленінскай ацэнкі дзяржпрадпрыемстваў як прадпрыемстваў «пасьлядоўна соцыялістычнага» тыпу. Трактоўка нэпу як політыкі адступленьня. Опортуністычнае скажэньне новай опозыцыяй ленінскай пастаноўкі пытаньня аб саюзе з серадняком. Пераход новай опозыцыі па асноўных пытаньнях рэволюцыі на позыцыі трацкізму. Погляды новай опозыцыі як працяг соцыял-дэмократычных поглядаў Каменева—Зіноўева ў 1917 г.

Утварэньне трацкісцка-зіноўеўскага блёку на пляцформе арганізацыі соцыялістычнага характару Кастрычніцкай рэволюцыі,

дыктатуры пролетарыяту і ленінскай тэорыі перамогі соцыялізму ў аднэй краіне. Барацьба з троцкізмам па ўнутрыпартыйным пытаньням. Троцкісцкая тэорыя двух партый. Троцкісцкая хлусьня аб «тэрмідоры» і цэнтрысцкай політыцы партыі. Спроба стварыць новую партыю. Антыпартыйныя і антысавецкія формы і мэтоды барацьбы троцкізму. Выраджэньне троцкізму ў контррэволюцыйны меншавізм.

Разгром троцкісцкага аб'яднанага блёку, XV партзьезд і VII пленум ВККІ аб несумяшчальнасьці падтрыманьня поглядаў троцкізму з прабываньнем у радох УсеКП(б) і Комінтэрну. Троцкізм як перадавы атрад контррэволюцыйнай буржуазіі. Роля і значэньне УсеКП(б) у барацьбе на два фронты ў Комінтэрне. Кіруючая роля т. Сталіна ў справе барацьбы за генэральную лінію партыі, за чыстату і далейшую распрацоўку ленінізму, у справе згуртаваньня партыі і рабочае клясы вакол ленінскага ЦК.

ЛІТАРАТУРА ДА ТЭМЫ:

Ленін, Тв., выд. 3-яе. „О профсоюзах"; „О текущем моменте и об ошибках" Троцкого", т. XXVI; стар. 61—81; „Еще раз о профсоюзах"; „О текущем моменте", стар. 109—145; „Кризис партии", стар. 83—94; „О едином хозяйственном пляне, стар. 168—175, Справаздача ЦК УсеКП(б) на X зьезьдзе РКП(б), стар. 202—233; „О Кронштадтском восстании", стар. 284; Прамова аб продпадатку на сходзе сакратароў ячэек Масквы, стар. 297—308; „О продовольственном налоге"; Тэзісы дакладу аб тактыцы РКП(б) на III конгрэсе КІ, стар. 423—465.

„О значении золота теперь и после победы социализма", т. XXVII, стар. 79—86; Прамова на сьвяткаваньні IV гадавіны Кастрычніцкай рэволюцыі, стар. 86; „Страничка из дневника", стар. 387—391; „О кооперации", стар. 391—397; „Как нам реорганизоваць рабкрин", стар. 402—406; „Лучше меньше да лучше", стар. 407—421.

Сталін, „Об оппозиции": разьдз.—„Нашы разногласия", стар. 5—14; О задачах партии", стар. 15—28; „О дискуссии, о т. Рофиале и д. т.", стар. 29 -43; „Об очередных задачах партстроительства", стар. 51—80; „Об оппозиции" стар. 95—99; „О социал-демократическом уклоне в нашей партии"; „Еще раз о социал-демократическом уклоне в нашей партии"; „Заметки на современные темы"; „Ленинизм и троцкизм".

Тэма 8

## Партыя ў пэрыод соцыялістычнай рэконструкцыі (14 гадз.)

Соцыялістычная індустрыялізацыя і колектывізацыя сельскай гаспадаркі як асноўны шлях у барацьбе за пабудову соцыялістычнага грамадзтва. XIV і XV зьезды партыі аб шляхох соцыялістыч-

най рэканструкцыі народнай гаспадаркі. Ленінскі лёзунг «дагнаць і перагнаць» і пяцігадовы плян індустрыялізацыі СССР. Адставаньне разьвіцьця сельскай гаспадаркі і задачы яе соцыялістычнай рэканструкцыі. Збожжавая проблема і яе вырашэньне партыяй.

Клясавыя зрухі ў краіне і абвастрэньне клясавай барацьбы ў горадзе і вёсцы. Социяльна-экономічныя карэньні правага ўхілу. Палітычная плятформа правага ўхілу—барацьба супроць узятых тэмпаў індустрыялізацыі краіны, раўнаньня на «вузкія» месцы, двухгодкі. Тэорыя мірнага ўрастаньня кулака ў соцыялізм і абвінавачваньне партыі ў ваенна-фэўдальнай эксплёатацыі сялянства. Стаўка на разьвіцьцё індывідуальнай сялянскай гаспадаркі і барацьбы супроць лініі партыі на разгортваньне саўгаснага і колгаснага будаўніцтва. Нявер'е ў магчымасьць пабудовы соцыялізму ў СССР. Скажэньне ленінскага коопэрацыйнага пляну і опортуністычнае тлумачэньне саюзу рабочае клясы з сялянствам. Тэорыя ўступак. Капітуляцыя правых перад кулаком і капіталістычнымі элемэнтамі. Ідэйнае змыканьне правых опортуністаў з програмай буржуазных рэстаўратараў. Трэдюніоніцкая палітыка правага ўхілу ў справе кіраўніцтва профсаюзамі. Спробы правых супроцьпаставіць профсаюзы партыі. Барацьба правых супроць лініі партыі ў пытаньнях партыйнага будаўніцтва. Спробы правых абвінаваціць партыю ў заціску і адсутнасьці ўнутрыпартыйнай дэмократыі. Супраціўленьне правых у справе разгортваньня бальшавіцкай самакрытыкі і барацьбы з бюрократызмам. Правы ўхіл—галоўная небясьпека на сучасным этапе.

Трацкісцкі характар выступленьняў «левых» (Стэн, Шацкін, і інш.) па пытаньнях ідэйна-тэорэтычнага росту партыі і работы ў вёсцы.

Антысерадняцкія перагібы «левых» у колгасным будаўніцтве, якія падрываюць саюз рабочай клясы з сялянствам (парушэньне добравольнасьці ўступленьня ў колгас, пераскокваньне праз арцель, гігантаманія, адміністраваньне).

Разгром правых і «левых»—перамога генэральнай лініі партыі.

XVI зьезд—зьезд разгорнутага наступленьня соцыялізму па ўсім фронце. Сутнасьць бальшавіцкага наступленьня. Барацьба на два фронты—супроць правага ўхілу як галоўнай небясьпекі, супроць «левага» ўхілу, як рэцыдыву трацкізму і супроць прымі-

рэнцтва да ўхілаў. Банкруцтва правай опозыцыі і яе капітуляцыя на XVI зьезьдзе ЎсеКП(б). Несумяшчальнасьць поглядаў правых пры належнасьці да ЎсеКП(б). Нацыянальнае пытаньне на XVI зьезьдзе. Барацьба на два фронты ў нацыянальным пытаньні.

Зьмена ў суадносінах клясавых сіл краіны ў выніку пераможнага разьвіцьця колгаснага руху. Зьмена пастаноўкі пытаньня аб апоры савецкай улады ў вёсцы: колгаснае сялянства—цэнтральная фігура ў земляробстве і асноўная, моцная апора савецкай улады ў вёсцы.

Права-«лявацкі» блёк і яго сутнасьць. Разгром права-«лявацкага» блёку.

Посьпехі першых трох год пяцігодкі як прадпасылкі далейшага паскарэньня тэмпаў соцыялістычнага будаўніцтва. Завяршэньне пабудовы фундаманту соцыялістычнай экономікі. Вырашэньне пытаньня «хто каго?» у карысьць соцыялізму і ў горадзе і ў вёсцы; чарговыя задачы чацьвертага году пяцігодкі. Палепшаньне якасьці работы ўсіх зьвеньняў партыйнага, савецкага, профсаюзнага, гаспадарчага і коопэрацыйнага апарату. Шэсьць гістарычных умоў т. Сталіна—баявая програма партыі ў барацьбе за пабудову соцыялістычнага грамадзтва.

Партыя ў барацьбе за другую пяцігодку. Асноўныя ўмовы кіраўніцтва масамі—умець выдзеліць асноўнае зьвяно ў агульным ланцугу, даць правільны лёзунг (зразумела для мас), пераканаць масы ў правільнасьці гэтага лёзунгу, не адставаць ад мас і не забягаць уперад, весьці бязьлітасную барацьбу на два фронты. «Хто хоча кіраваць рухам, той павінен весьці барацьбу на два фронты—супроць адстаючых і супроць забягаючых уперад» (Сталін). Барацьба на два фронты—супроць правага ўхілу, які ўсё яшчэ застаецца галоўнай небясьпекай на даным этапе, супроць «левага» ўхілу і прымірэнцтва да іх—як асноўная ўмова пабудова бяскласавага грамадзтва.

ЛІТАРАТУРА ДА ТЭМЫ:

**Ленін**, Тв., выд. 3-е. „Очередные задачи советской власти", т. XXII, стар. 435—468. Экономика и политика в эпоху диктатуры пролетариата, т. XXV, стар. 347; Великий почин, стар. 28.

**Сталін**, Вопросы ленинизма: Палітсправаздача ЦК на XVI зьезьдзе ЎсеКП(б) і заключнае слова „К вопросам аграрной политики в СССР (прамова на конфэрэнцыі аграрнікаў-марксыстаў 27 сьнежня 1929 г.); „Год великого перелома", „О правом уклоне в ВКП(б); „Ответ товарищам колхозникам"; „К вопросу о по-

литике ликвидации кулачества как класса"; „Вопросы и ответы" (прамова ў Сьвярдлоўскім унівэрсытэце 9 чэрвеня 1925 г.); „Головокружение от успехов"; „Ленин в вопросе о союзе с середняком" (адказ С.); „О задачах хозяйственников".

Сталін. Новая абстаноўка—новыя задачы гаспадарчага будаўніцтва; Ліст у у рэд. жур. „Прол. революция" № 6, 1931 г.

Бубноў, „Ленин и основные вопросы современного этапа социалистической революции".

Тэма 9

## III Комуністычны Інтэрнацыянал—партыя сусьветнай пролетарскай рэволюцыі (12 гадз.)

Узьнікненьне Комуністычнага інтэрнацыяналу і яго дзейнасьць у гады рэволюцыйнага крызісу (1918—1921).

Гістарычныя ўмовы зараджэньня і аформленьня III Комуністычнага інтэрнацыяналу. Месца і роля II Інтэрнацыяналу ў гісторыі рабочага руху. Імпэрыялістычная вайна і крах II Інтэрнацыяналу. Бальшавізм у барацьбе з опортунізмам, соцыял-шовінізмам і цэнтрызмам за партыю новага тыпу, за III Комуністычны інтэрнацыянал. Гістарычнае значэньне барацьбы бальшавізму з «левым» радыкалізмам у II Інтэрнацыянале ў справе стварэньня III Комуністычнага інтэрнацыяналу. Трацкісцкая контрабанда ў асьвятленьні гісторыі Комінтэрну. Тэорыя «двухкарэннасьці», «ручайкоў».

Кастрычніцкая рэволюцыя і яе ўплыў на міжнародны рабочы і нацыянальна-рэволюцыйны рух. Узьнікненьне і аформленьне комуністычных партый у заходняэўропейскіх, амэрыканскіх і ўсходніх краінах.

Організацыйнае аформленьне III Інтэрнацыяналу. III Комуністычны інтэрнацыянал—баявы штаб сусьветнай пролетарскай рэволюцыі. Ацэнка пасьляваеннага крызісу капіталізму Комінтэрну; барацьба Комінтэрну з правымі опортуністамі і трацкістамі. Стратэгія і тактыка Комінтэрну ў першы пэрыод пасьляваеннага крызісу капіталізму і практычныя вывады з рэволюцыйных баёў 1918—1921 гг. Аграрнае і нацыянальна-колёніяльнае пытаньне на II конгрэсе Комінтэрну. Організацыйныя прынцыпы Комінтэрну.

III конгрэс Комінтэрну аб характары разьвіцьця пасьляваеннага капіталізму. Наступленьне капіталізму і фашызму на рабочую клясу. Тактыка адзінага фронту. Посьпехі соцыялістычнага будаў-

ніцтва ў СССР, экономічны і палітычны крызіс у Сярэдняй Эўропе ў 1923 г. Палітычныя падзеі 1923 г. (Германія, Баўгарыя, Польшча) і барацьба Комінтэрну са скажэньнямі тактыкі адзінага фронту і лёзунгаў рабочага і рабоча-сялянскага ўраду.

Асноўныя рысы другога пэрыоду адзінага крызісу капіталізму і ацэнка капіталістычнай стабілізацыі Комінтэрнам. Трацкізм і правы опортунізм аб характары капіталістычнай стабілізацыі. Соцыял-фашысцкія тэорыі «арганізаванага капіталізму», «гаспадарчай дэмократыі» і «прамысловага міру». Соцыяльная база сучаснай соцыял-дэмократыі. Соцыял-фашызм. Рэволюцыйны рух на Захадзе (венскае паўстаньне, ангельская ўсеагульная стачка, сялянскі рух ў Баўгарыі) і на Ўсходзе (кітайская рэволюцыя, рэволюцыйны рух у Індыі, Мароко) у 1924—27 гг. Комінтэрн у барацьбе з трацкізмам па пытаньнях тактыкі адзінага фронту, ацэнкі характару і рухальных сіл кітайскай рэволюцыі, англійская ўсеагульная стачка, англа-рускага комітэту, венскага паўстаньня і соцыялістычнага будаўніцтва ў СССР. Барацьба Комінтэрну за бальшавізацыю компартыі, за заваяваньне большасьці рабочае клясы.

Ацэнка трэцяга пэрыоду крызісу капіталізму VI конгрэсам Комінтэрну, X і XI пленумамі ВККІ. Ацэнка трэцяга пэрыоду агульнага крызісу капіталізму контррэволюцыйным трацкізмам, правымі і «левымі» опортуністамі. Програмныя пытаньні на VI конгрэсе Комінтэрну. Барацьба Комінтэрну з небясьпекай імпэрыялістычных войн і інтэрвэнцыі супроць СССР. Фашызм і соцыял-фашызм. Соцыял-фашызм—галоўная соцыяльная апора буржуазіі. «Левае» крыло соцыял-дэмократыі—найбольш небясьпечны праваднік буржуазнай політыкі ў рабочай клясе.

Важнейшыя посьпехі сэкцыі Комінтэрну за праміну́лы пэрыод. Слабасьці і недахопы ў рабоце сэкцыі Комінтэрну. Задачы і тактыка Комінтэрну ў сучасных умовах крызісу капіталізму і ўздыму рэволюцыйнага руху. Заваяваньне большасьці рабочай клясай як асноўная задача компартыі ў капіталістычных краінах.

Формы і мэтоды барацьбы за заваяваньне большасьці рабочай клясы. Работа компартый у профсаюзах. Правядзеньне Комінтэрнам тактыкі «кляса супроць клясы», тактыкі адзінага фронту зьнізу, тактыкі самастойнага кіраўніцтва клясавымі баямі.

Барацьба компартыі за гегемонію пролетарыяту ў нацыянальна-рэволюцыйным руху. Задачы кітайскай компартыі.

Бальшавізацыя сэкцый Комінтэрну. Чыстка компартый ад яўна опортуністычных элемэнтаў як мера, якая ўзмацняе бояздольнасьць сэкцый Комінтэрну. Правaопортуністычны ўхіл як агентура соцыял-дэмократыі ў радох Комінтэрну і як галоўная небясьпека бягучага пэрыоду. Опортуністычныя погляды правых у Комінтэрне па пытаньні аб небясьпецы вайны супроць СССР. X пленум ВККІ аб несумяшчальнасьці поглядаў правага ўхілу з прыналежнасьцю да компартыі.

«Левы» опортунізм у радох сэкцый ВККІ. Барацьба з «левым» сэктанствам і авантурызмам—важнейшая задача компартый.

Задача далейшай непрымірымай барацьбы Комінтэрну—на два фронты—з адкрытым правым опортунізмам, які зьяўляецца галоўнай небясьпекай, з «левым» опортунізмам, з прымірэнцтвам да ўхілаў ад генэральнай лініі.

Ліст т. Сталіна ў рэдакцыю «Пролетарская революция» і задачы сэкцый ВККІ. Барацьба з соцыял-дэмократычнымі перажыткамі, ідэалізацыя люксэмбургіянства, з трацкісцкай контрабандай у галіне асьвятленьня гісторыі Комінтэрну і паасобных компартый, барацьба за чыстату генэральнай лініі Комінтэрну—асноўная прадпасылка перамогі Комінтэрну ў барацьбе за рэволюцыйны выхад з крызісу, за дыктатуру пролетарыяту.

ЛІТАРАТУРА ДА ТЭМЫ:

Ленін, „К вопросу об об'единении интернационалистов", т. XX, стар. 381—383; „I конгресс Коминтерна". Тв., т. XXV, стар. 1—25; „Завоеванное и написанное", стар. 25—32, выд. 3-е.

Тэзісы аб тактыцы РКП(б), Тв., т. XXVI, стар. 432—435; „Прамова ў абарону тактыкі Комінтэрну", стар. 441—449, выд. 3-е.

Сталін, „Вопросы ленинизма": разьдз.—„Мэтод"; „Теория"; „Партия"; „О правом уклоне"; „О некоторых вопросах истории большевизма"; „Об итогах XIV конференции РКП(б)"; „Доклад на XVI с'езде ВКП(б)".

„Большевик" № 11 за 1924 г., арт. т. Сталіна „О компартии Польши" стар. 51—55.

„Большевик" № 1 за 1930 г., арт. т. Сталіна „О правых фракционерах в американской компартии", стар. 8—27.

„Большевик" № 23—24 за 1928 г., арт. т. Сталіна „О правом уклоне в германской компартии", стар. 40—47.

Сталін „Об оппозиции". Разьд.—„Об англо-русском комитете единства" стар. 296—308; „Политическая физиономия" оппозиции", стар. 705—718; „О перспективах революции в Китае", стар. 423—435; „Революция в Китае и задачи Коминтерна", стар. 585—605; „Вопросы китайской революции", стар. 551—557.

Молатаў, 1) справаздача дэлегацыі ЎсеКП(б) у Комінтэрне на XVI зьезьдзе ЎсеКП(б); 2) прамова на X пленуме ВКІ; 3) даклад аб ітогах VI конгрэсу на сходзе ленінградзкага партактыву, разьдзел аб програме.

Тэзісы і рэзолюцыі Комінтэрну: 1) Програма Комінтэрну; 2) Тэзісы III конгрэсу Комінтэрну аб сусьветным становішчы і задачах Комінтэрну, стар. 3—14, 3) Тэзісы ВККІ і аб адзіным рабочым фронце (журнал „Коммунистический Интернационал" № 20 за 1932 г.); 4) Стэнографічная справаздача V конгрэсу КІ, ч. I, стар. 45—91, 143—172, 437—483, ч. 2, стар. 87—97, 109—116; 5) Тэзісы VII пленуму ВККІ аб міжнародным становішчы; Стэнографічная справаздача, т. II, стар. 390—406; 6) Тэзісы аб уроках англійскай стачкі, журнал „Коммунистический интернационал" № 5—6 за 1926 г., стар. 5—26; 7) Тэзісы аб бальшавізацыі партыі Комінтэрну, пратаколы V пашыранага пленуму ВККІ, стар. 497—528; 8) Тэзісы аб міжнародным становішчы і задачах Комінтэрну, стэнографічная справаздача, стар. 56—80; 9) Рэзолюцыя XI пленуму ВККІ аб узмацненьні пагрозы ваеннае інтэрвэнцыі супроць СССР і задачы комуністаў; 10) Тэзісы XI пленуму ВККІ; 11) Даклад і заключнае слова Мануільскага, Тэльмана, Ленскага на X пленуме ВККІ, журнал „Комінтэрн" № 12 за 1931 г.; 12) Рэзолюцыя VI конгрэсу Комінтэрну аб рэвалюцыйным руху ўколёніях і паўколёніях.

---

РЭДКОЛЕГІЯ: Залатухін, Улазаў, Сямёнаў, Грыцкевіч, Клімаў, Гурвіч

Адказны рэдактар ЗАЛАТУХІН.

Адрас рэдакцыі: Менск, Чырвонаармейская, ЦК КП(б)Б, пакой № 51.

